Інфармацыйны бюлетэнь • № 1–2/99 •

# Каталіцкія НАВІНЫ

ВЫДАННЕ
МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ
АРХІДЫЯЦЭЗІІ
РЫМА-КАТАЛІЦКАГА
КАСЦЁЛА



## ГОД БОГА-АЙЦА



*Пошукі аблічча Бога – гэта неабходны шлях, які трэба прайсці са шчырым сэрцам і з поўным адданнем. Толькі сэрца справядлівага можа знайсці радасць у пошуках аблічча Бога*

*Ян Павел II*

У нумары:











# Айцец як сімвал аблічча Бога

1. *"Ты стварыў нас, Пане, для сябе, і неспакойнае сэрца наша, пакуль не спачне ў Табе"* (Споведзь 1,1). Гэтае вядомае сцвярджэнне, якім пачынаецца "Споведзь" св. Аўгустына, у дастатковай ступені адлюстроўвае заўсёдную чалавечую патрэбу шукаць аблічча Бога. Гэты досвед пацвярджаюць розныя рэлігійныя традыцыі. "Са старажытных часоў і ажно да нашай эпохі, – пацвердзіў Сабор, – у розных народаў мы знаходзім якоесь распазнанне гэтай таямнічай сілы, якая прысутнічае ў хадзе спраў свету і здарэннях людскога жыцця; часам нават прызнанне Найвышэйшага Боства альбо таксама Айца" ("Nostra aetate", 2).

Сапраўды, у многіх малітвах сусветнай рэлігійнай літаратуры выказана перакананне, што Найвышэйшае Быццё чалавек можа распазнаць і клікаць як Айца. Гэта сыходзіць ад вопыту адчування сардэчнага клопату з боку зямнога бацькі. Менавіта гэтая сувязь выклікала ў некаторых плынях сучаснага атэізму падазрэнне, што нібыта само паняцце Бога было праекцыяй вобразу бацькі. Насамрэч гэтае падазрэнне не мае ніякіх падставаў.



Аднак сапраўды, абапіраючыся на свой вопыт, чалавек часам бывае схільны да ўяўлення бостваў з антрапамарфічнымі рысамі, якія празмерна адлюстроўваюць чалавечы свет. Пошукі Бога адбываюцца як бы "навобмацак", як сказаў Павел у прамове да афінцаў (пар. Дз. 17, 27). Таму, трэба мець на ўвазе гэтыя светлацені рэлігійнага вопыту, усведамляючы, што толькі поўнае аб'яўленне, у якім нам адкрываецца сам Бог, можа развеяць цямноты і няяснасці.

2. Па прыкладзе Паўла, які менавіта ў прамове да афінцаў цытуе верш паэта Аратаса аб боскім пачатку чалавека (пар. Дз 17, 28), Касцёл з пашанай глядзіць на спробы пазнаць аблічча Бога ў іншых рэлігіях, адрозніваючы ў іх вераваннях тое, што можна прыняць ад таго, што нязгодна з хрысціянскім аб'яўленнем.

У такой перспектыве трэба разглядаць станоўчую рэлігійную інтуіцыю ў разуменні Бога як агульнага Айца свету і людзей.

Аднак нельга прымаць паняцця Бога, апанаванага свавольствам і капрызамі. Напрыклад, у старажытных грэкаў Дабро як найвышэйшая і боская істота таксама называлася айцом, але бог Зеўс выяўляў сваё айцоўства як ў ласкавасці, так і ў гневе і злосці (...)

Аднак патрэба ў Богу, вышэйшым за капрызнае свавольства, таксама ёсць і ў грэкаў, аб чым сведчыць, напрыклад, "Гімн да Зеўса" Клеанта.

Паняцце боскага айца, гатовага да велікадушнага дару жыцця і прадбачлівага ў абдорванні дабротамі, неабходнымі для існавання, але таксама суровага і караючага, прытым не заўсёды з яўнай прычыны, у старажытных грамадствах звязана з умацаваннем патрыярхату і адтуль у рэлігійную сферу пераносіцца прымітыўнае разуменне гэтага паняцця.

3. У Ізраілі прызнанне Богаайцоўства адбываецца паступова і пастаянна знаходзіцца пад пагрозай спакусы ідалапаклонства, якую рашуча выкрываюць пракрокі: "Кажуць дрэву: Ты – мой бацька, а каменю: Ты мяне нарадзіў" (Яр 2, 27). Сапраўды, для біблійнага рэлігійнага вопыту разуменне Бога як Айца звязана не столькі з Яго стваральным дзеяннем, колькі з Яго гістарычназбаўчым умяшальніцтвам, у рамках якога Ён заключае з Ізраілем спецыяльную дамову запавету. Бог часта наракае, што Ягоная айцоўская любоў не сустрэла належнага адказу: "Пан гаворыць:

выгадаваў і выхаваў сыноў, але яны выступілі супраць Мяне" (Іс 1, 2)

Айцоўства Бога адкрываецца Ізраілю мацнейшым за чалавечае бацькоўства: "Бо і бацька, і маці мая пакінулі мяне; а Пан прымае мяне" (Пс 27, 10). Псальміст, які зведаў гэтае горкае пачуццё пакінутасці і ў Богу знайшоў айца больш клапатлівага, чым зямны бацька, паказвае нам шлях, які скіроўвае да гэтай мэты: "Сэрца маё кажа аб Табе: шукайце аблічча Майго! І я буду шукаць аблічча Твайго, Пане" (Пс 27, 8). Пошукі аблічча Бога – гэта неабходны шлях, які трэба прайсці са шчырым сэрцам і з поўным адданнем. Толькі сэрца справядлівага можа знайсці радасць у пошуках аблічча Бога (пар. Пс 105, 3) і ў ім жа можа адбіцца айцоўскае аблічча Бога (пар. Пс 119, 135, таксама 31, 17; 67, 2; 80, 4.8.20). Захоўваючы закон Божы, чалавек таксама ва ўсёй паўнаце карыстаецца апекай Бога запавету. Благаславенне, якім Бог абдорвае свой народ праз святарскае пасрэдніцтва Аарона, заключаецца менавіта ў гэтым прамяністым аб'яўленні аблічча Бога: "Няхай Пан гляне светлым абліччам сваім на цябе, няхай абдорыць цябе сваёй ласкай. Няхай звярне да цябе аблічча свае і абдорыць цябе спакоем" (Лб 6, 25)

4. У хвіліну прыйсця Езуса на свет шуканне аблічча Бога-Айца атрымала новае, яшчэ больш значнае вымярэнне. У сваім навучанні Езус, абапіраючыся на ўласны вопыт як Сын, пацвердзіў канцэпцыю Бога як Айца, ужо акрэсленую ў Старым Запавеце; больш таго: Ён нястомна аб'яўляў яе, глыбока і невымоўна перажываў, а для чалавека, які жадае дасягнуць збаўлення, устанаўліваў у якасці жыццёвай праграмы.

Перадусім Езус у адносінах да Богаайцоўства займае выключную пазіцыю, аб'яўляючы сябе Сынам і прапануючы сябе ў якасці адзінага шляху, які вядзе да Айца. Піліпу, які просіць: "Пакажы нам Айца, і годзе з нас" (Ян 14, 8), Езус адказаў, што пазнанне Яго самога азначае пазнанне Айца, бо Айцец дзейнічае праз Яго (пар. Ян 14, 8-11). Хто хоча сустрэцца з Айцом, той павінен верыць у Сына, у Ім Бог не абмяжоўваецца толькі аказаннем нам своечасовай айцоўскай дапамогі, але дае нам сваё жыццё, чынячы нас "дзецьмі ў Сыне". Менавіта гэта падкрэслівае з удзячнасцю і ўзрушэннем апостал Ян: "Глядзіце, якую любоў даў нам Айцец, каб нам называцца дзецьмі Божымі" (1 Ян 3, 1).

***Ян Павел II***

*Прамова на генеральнай аўдыенцыі*
*13 студзеня 1999г.*

## Калядное пасланне Папы «Urbi et Orbi»

У традыцыйным пасланні «Urbi et Orbi» («Гораду і Свету»), абвешчаным 25 снежня з балкона базылікі св.Пятра, Папа Ян Павел II звярнуў увагу на «яскравы кантраст паміж радасным калядным настроем і шматлікімі праблемамі сучаснасці». Святы Айцец заклікаў сусветную супольнасць захоўваць мір на зямлі, спыніць ваенныя дзеянні, гандаль зброяй, абараняць чалавечае жыццё, адмяніць пакаранне смерцю і вызваліць дзяцей і моладзь ад усялякіх формаў эксплуатацыі.

## Папскае пасланне на Сусветны дзень моладзі

«Свет узлюбёны Богам. І, нягледзячы на непрыняцце Бога, – на што ён здольны – застанецца і надалей узлюбёным Ім – аж но да канца», – напісаў Папа ў пасланні на XIV Дзень Моладзі, які адбудзецца ў Пальмовую Нядзелю 28 сакавіка. «У наш час Касцёл і свет патрабуюць больш, чым калі-кольвечы, місіянераў, якія былі б здольныя абвяшчаць словам і прыкладам гэтую галоўную і суцяшальную праўду», – напісаў Папа, заклікаючы маладых, якія стануць дарослымі ў будучым тысячагоддзі, вучыцца ў школе Езуса.

Ян Павел II заахвоціў маладых да пашаны і ўдзячнасці да тых людзей, бацькоўства якіх нясе на сабе адбітак Айцоўства Бога. Па-першае, гэта бацькі, настаўнікі, а таксама святары і законнікі, якія праз сяброўства з маладымі і сваё сведчанне становяцца для іх настаўнікамі.Таксама Папа зноў узнімае тэму граху, які ёсць аспрэчваннем любові Бога, і праблему навяртання. Ён звяртае ўвагу на няспынную гатоўнасць Бога прабачаць чалавека. Узгадваючы прыпавесць пра марнатраўнага сына, Папа кажа: «Ад хвіліны, калі ён аддаляецца ад свайго дому, ягоны Айцец жыве ў чаканні, не губляе надзеі, выглядае яго на гарызонце. Шануе свабоду сына і адначасова пакутуе, а калі сын адважваецца на вяртанне, Ён, убачыўшы яго здалёк, выбягае яму насустрач...» Тут Папа кажа пра важнасць сакрамэнту Споведзі. «Каб атрымаць Божае прабачэнне, недастаткова толькі ўнутранага жалю за грахі. Пяднанне з Богам адбываецца праз яднанне з усёй касцёльнай супольнасцю». Падкрэсліваючы незаменную ролю св. Споведзі, Ян Павел II заахвочвае ўсіх маладых людзей як найчасцей прыступаць да яе. Напрыканцы свайго паслання Папа спасылаецца на Хрыстовыя прыказанні любові да Бога і бліжняга, кажучы пра дапамогу найбяднейшым. Пануючыя «структуры граху» могуць быць пераможаныя толькі дзякуючы салідарнасці ўсіх людзей.

***KAI***



# Пастырскі ліст

## перад IV пленарнай сесіяй Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі

*"...жыццё вашае пахавана з Хрыстом у Богу"* /Кал 3,3/.

*"Дык ідзіце і навучайце ўсе народы ..."* /Мц 28,19/.

Сінод Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі імкнецца ахапіць сваімі пастановамі ўсю сукупнасць тэмаў-праблем, якія датычаць дзейнасці Касцёла ў гэтых дзвюх дыяцэзіях. Кіруючыся прынцыпамі лагічнай і паслядоўнай узаемасувязі тэмаў, Сінод на сваіх першых трох Пленарных Сесіях прыняў рашэнне ў форме зацверджаных статутаў аб "Агульных нормах", аб "Пакліканні і пасланніцтве свецкіх вернікаў у Касцёле і ў свеце", аб "Сужэнстве і сям'і" і аб "Пакліканні да святарства і пастаяннай фармацыі святароў".

Цяпер Сінадальныя групы на чале з Каардынацыйнай Камісіяй Сіноду апрацавалі дзве наступныя тэмы: "Інстытуты кансэкраванага жыцця", а таксама "Місійная дзейнасць Касцёла" і прапанавалі іх да разгляду і прыняцця адпаведных сінадальных пастановаў на IV Пленарнай Сесіі Сіноду, якая адбудзецца 15-16 студзеня 1999 года ў місійным Доме айцоў вербістаў у Баранавічах.

Гэтыя дзве распрацоўкі з'яўляюцца дапаўненнем да тэмаў, якія ахопліваюць увесь люд Божы ў мясцовым Касцёле Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі.

Першая тэма "Інстытуты кансэкраванага жыцця і таварыствы апостальскага жыцця" – гэта непасрэдны працяг тэмы "Пакліканне да святарства і пастаянная фармацыя святароў". Святарства і кансэкраванае жыццё ўзаемадапаўняюцца ў ажыццяўленні наказаў і евангельскіх парадаў Езуса Хрыста ў апостальскім пасланніцтве Касцёла.

Менавіта "Інстытуты кансэкраванага жыцця і таварыствы апостальскага жыцця" пакліканы да асаблівага захоўвання евангельскіх парадаў, якімі з'яўляюцца чысціня, убоства і паслухмянасць. Захоўваць евангельскія парады спецыяльнымі шлюбамі абавязваюцца асобы, якія цалкам аддаюць сябе Богу ў ахвяры любові. Гэту практыку евангельскіх парадаў можна рэалізоўваць асабіста, але лепш і больш дасканала яна ажыццяўляецца ў Інстытутах кансэкраванага жыцця.

Трэба схіліць галаву ў знак прызнання і ўдзячнасці ўсім тым членам Інстытутаў кансэкраванага жыцця і таварыстваў апостальскага жыцця, хто сваім поўным пасвячэння жыццём, ахвярнаю душпастырскаю працаю і нават сваёю пакутніцкаю смерцю, зрабіў агромністы ўклад у адраджэнне Касцёла і аднаўленне рэлігійнага жыцця на Беларусі.

На сённяшні дзень у Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі з усіх 115 святароў душпастырскую службу нясуць 62 святары-законнікі, выконваючы функцыі пробашчаў у давераных ім парафіях. Аднак адчуваецца недахоп мясцовых законных пакліканняў, бо толькі 6 святароў-законнікаў паходзяць з гэтых тэрыторый.

Значна лепш развіваецца кансэкраванае жыццё сярод жанчын. Нават дзве жаночыя законныя супольнасці перажылі цяжкія гады атэістычнага рэжыму. Цяпер у Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі працуе 124 законніцы, сярод іх ажно 68 – мясцовых. Яны дапаўняюць душпастырскую дзейнасць святароў сваёю ахвярнаю і шчыраю катэхетычнаю і дабрачыннаю працаю з дзецьмі, моладдзю і дарослымі, асабліва – з хворымі, старымі і тымі, хто патрабуе дапамогі.

Застаецца толькі пажадаць шаноўным святарам-законнікам і паважаным законным сёстрам шчодрай ласкі Божай і асабліва – дароў Духа Святога ў іх далейшай душпастырскай дзейнасці ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі.

Другая тэма IV Пленарнай Сесіі Сіноду "Місійная дзейнасць Касцёла" таксама звязана з апрацаванымі дагэтуль тэмамі нашага Сіноду. Касцёл па сваёй прыродзе – місійны і наказ Хрыста Пана: "Дык ідзіце і навучайце ўсе народы" /Мц 28,19/, датычыць не толькі місіянераў, але і святароў, і законнікаў, і законніц, і свецкіх вернікаў.

І хоць Беларусь фармальна не залічана да місійных краінаў, аднак, беручы пад увагу велізарныя духоўныя і матэрыяльныя страты, якія панёс Касцёл у перыяд ваяўнічага атэізму, узнікае неабходнасць правядзення тут сапраўды місійных акцый. Людзям, у якіх вырывалі з душаў веру ў Бога, трэба шляхам катэхізацыі і евангелізацыі вяртаць гэту веру і ўзнаўляць прыналежнасць да Касцёла. У гэтай місійнай дзейнасці не выпадае абмяжоўвацца толькі мясцовым насельніцтвам. Касцёл на Беларусі, дзякуючы тэрытарыяльным, моўным і культурным сувязям, мае магчымасць пашыраць Евангелле на тэрыторыях былых савецкіх рэспублік.

Зразумела, трэба таксама дбаць пра місійную дзейнасць ва ўсім Касцёле праз малітву і ахвяру цярпенняў у місійных інтэнцыях, клапоцячыся пра місійныя пакліканні і, па меры магчымасці, дапамагаючы матэрыяльна місіям у розных місійных краінах.

Заканчваючы свой Пастырскі Ліст, жадаю, каб гэта IV Пленарная Сесія Сіноду сваімі пастановамі спрычынілася да ўзрастання пакліканняў да кансэкраванага і апостальскага жыцця, да яго ўмацавання і паглыблення ў духу любові да Бога і бліжняга, як і да пашырэння Місійнай Справы ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі.

Прашу прыняць пастырскае благаславенне.

***Кардынал Казімір Свёнтэк,***
*Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,*
*Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі*



# List pasterski

## przed IV Sesją Plenarną Synodu Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej

*"...wasze życie jest ukryte z Chrystusem w Bogu"* /Kol 3,3/.

*"Idźcie więc i nauczajcie wszystkie narody ..."* /Mt 28,19/.

Synod Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej dąży do ogarnięcia swymi uchwałami całokształtu tematów – zagadnień, dotyczących działalności Kościoła w tych dwóch diecezjach. Kierując się zasadami logicznego i konsekwentnego powiązania tematów Synod na swych pierwszych trzech Sesjach Plenarnych powziął decyzje w formie uchwalonych statutów o "Normach ogólnych" i "Powołaniu i posłannictwie wiernych świeckich w Kościele i świecie", o "Małżeństwie i Rodzinie" i o "Powołaniu do kapłaństwa i formacji stałej kapłanów".

Obecnie Zespoły Synodalne, na czele z Komisją Koordynacyjną Synodu, opracowały dwa następne tematy: "Instytuty życia konsekrowanego i Stowarzyszenia życia apostolskiego", oraz "Dzieło Misyjne Kościoła" i przedłożyły je do rozpatrzenia i przyjęcia odpowiednich uchwał synodalnych na IV Sesji Plenarnej Synodu, która odbędzie się w dniach 15 i 16 stycznia 1999 roku w Domu Misyjnym Księży Werbistów w Baranowiczach.

Dwa te opracowania są dopełnieniem tematów, ogarniających cały Lud Boży w partykularnym Kościele Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej.

Pierwszy temat "Instytuty życia konsekrowanego i Stowarzyszenia życia apostolskiego" jest bezpośrednim przedłużeniem tematu "Powołanie do kapłaństwa i formacja stała kapłanów". Kapłaństwo i Życie Konsekrowane wzajemnie uzupełniają się w urzeczywistnianiu nakazów i rad ewangelicznych Jezusa Chrystusa w posłannictwie apostolskim Kościoła.

Właśnie "Instytuty życia konsekrowanego i Stowarzyszenia życia apostolskiego" powołane są do szczególniejszego zachowywania rad ewangelicznych, jakimi są: czystość, ubóstwo i posłuszeństwo. Do przestrzegania rad ewangelicznych specjalnymi ślubami zobowiązują się osoby, które dokonują całkowitego oddania się Bogu w ofierze miłości. Tę praktykę rad ewangelicznych można podjąć prywatnie, ale lepiej i doskonalej pełni się ją w Instytutach życia konsekrowanego.

Z pochyleniem głowy należy wyrazić uznanie i wdzięczność tym wszystkim członkom i członkiniom Instytutów życia konsekrowanego i Stowarzyszeń życia apostolskiego, którzy swym pełnym poświęcenia życiem, ofiarną pracą duszpasterską, a nawet swą śmiercią męczeńską, wnieśli ogromny wkład w odrodzenie Kościoła i odnowienie życia religijnego na Białorusi.

Na dzień dzisiejszy w Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej z ogólnej liczby 115 księży duszpasterzuje 62 kapłanów zakonnych, pełniąc funkcje proboszczowskie w powierzonych im parafiach. Odczuwa się jednak brak miejscowych powołań zakonnych, bo tylko 6 księży zakonników pochodzi z tych terenów.

Znacznie lepej rozwija się życie konsekrowane wśród niewiast. Nawet dwa zgromadzienia żeńskie przetrwały ciężkie lata reżymu ateistycznego. Obecnie w Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej liczba sióstr zakonnych wynosi 124, w tym aż 68 miejscowych. Uzupełniają one działalność duszpasterską kapłanów swą ofiarną i troskliwą pracą katechetyczną i dobroczynną wśród dzieci, młodzieży i dorosłych, zwłaszcza chorych, starych i potrzebujących pomocy.

Pozostaje tylko życzyć Czcigodnym Księżom zakonnym i Wielebnym Siostrom zakonnym obfitych łask Bożych, a szczególniej darów Ducha Świętego na dalszą ich działalność duszpasterską w Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej.

Drugi temat IV Sesji Plenarnej Synodu "Dzieło misyjne Kościoła" jest też powiązany z dotychczas opracowanymi tematami naszego Synodu. Kościół z natury swojej jest misyjny i nakaz Chrystusa Pana: "Idźcie więc i nauczajcie wszystkie narody" /Mt 28,19/ dotyczy nie tylko misjonarzy, ale i kapłanów i zakonników i zakonnice i wiernych świeckich.

I chociaż Białoruś nie jest formalnie zaliczana do krajów misyjnych, to jednak, biorąc pod uwagę ogromne straty duchowe i materialne, poniesione przez Kościoł w okresie wojującego ateizmu, zachodzi konieczność przeprowadzania akcji prawdziwie misyjnych. Ludziom, którym wyrywano z dusz wiarę w Boga, trzeba drogą katechizacji i ewangelizacji przywracać tę wiarę i wznawiać przynależność do Kościoła. W tej działalności misyjnej nie wypada ograniczać się tylko do miejscowej ludności. Kościół na Białorusi ma możliwość dzięki powiązaniom terenowym, językowym, kulturowym szerzyć Ewangelię na terenach innych dawnych republik radzieckich.

Oczywiście trzeba też dbać o dzieło misyjne w całym Kościele poprzez modlitwę i ofiarę cierpień w intencjach misyjnych, przez troskę o powołania misyjne i przez w miarę możności pomoc materialną dla misji w różnych krajach misyjnych.

Na zakończenie mego listu pasterskiego wyrażam pragnienie, by ta IV Sesja Plenarna Synodu przyczyniła się przez swe uchwały do wzrastania powołań do życia konsekrowanego i apostolskiego, jego umocnienia i pogłębienia w duchu miłości Boga i bliźniego, jak też do szerzenia się Dzieła Misyjnego w Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej.

Proszę przyjąć błogosławieństwo pasterskie.

***Kazimierz Kardynał Świątek***
*Arcybiskup Metropolita*
*mińsko-mohylewski*
*Administrator Apostolski*
*Diecezji pińskiej*

# Адкрыццё IV пленарнай сесіі Сінода Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі




Дэкрэтам ад 8 снежня 1998г. кардынал Казімір Свёнтэк склікаў IV пленарную сесію Сінода Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі, прысвечаную дзвюм тэмам: *"Інстытуты кансэкраванага жыцця і таварыствы апостальскага жыцця"* і *"Місійная дзейнасць Касцёла"*. Кожны з удзельнікаў, – а гэта 39 святароў, 3 законныя сястры, 1 законнік і 16 свецкіх вернікаў, – атрымаў праект Статутаў і сінадальны малітоўнік.

Пасяджэнні сесіі Сінода пачаліся 15 студзеня гг. у Місійным доме айцоў-вербістаў у Баранавічах. У гаміліі падчас урачыстай Святой Імшы на адкрыцці сесіі Апостальскі нунцый арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі падкрэсліў вялікае значэнне не толькі выпрацаваных сінадальных дакументаў, але і самога духу Сіноду.

Пасля Святой Імшы адбылося адкрыццё сінадальнай выставы, а 12-ай гадзіне пачаліся пасяджэнні, на якіх удзельнікі былі закліканыя ўсвядоміць усю важнасць слоў Хрыста, сказаных вучням: "Вы – святло свету!"(Мц. 5, 14). Першы дзень сінадальных пасяджэнняў прайшоў у малітве і працы ў секцыях. На адкрыцці Сіноду прысутнічалі дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі кс. Антоні Дзямянка, прадстаўнікі праваслаўнай Царквы. Тэлефонным званком з Іркуцка прывітанне дэлегатам перадаў біскуп Ежы Мазур, былы айцец Сіноду.

Другі дзень IV сесіі пачаўся 16 студзеня ранішняй малітвай у капліцы Святой Тройцы Місійнага дома айцоў-вербістаў. Святую Імшу канцэлебраваў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк. Ён выказаў радасць з нагоды адраджэння на Беларусі законнага жыцця, новых святарскіх пасвячэнняў, будаўніцтва і аднаўлення касцёлаў і пажадаў удзельнікам сесіі святла Духа Святога і апекі Маці Божай. На пленарных паседжаннях удзельнікі слухалі даклад намесніка старшыні Каардынацыйнай камісіі Сіноду кс.Станіслава Паўліны, дзе прагучалі наступныя звесткі: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія: плошча 109,900 тыс. км², колькасць насельніцтва 6,2 млн. У тым ліку каталікаў 350 тыс.; святароў: 33 – грамадзяне Беларусі, 46 – з-за мяжы; законніц: 59 грамадзянак Беларусі і 26 іншаземных. Пінская дыяцэзія: плошча 72,2 тыс. км²; колькасць насельніцтва 3,1 млн. У тым ліку каталікаў 50 тыс.; святароў: 7 грамадзян Беларусі і 27 замежнікаў; законніц адпаведна – 9 і 30. "Мы ўсведамляем, што рэалізацыя місійнага наказу Хрыста перавышае людскія сілы. Езус ведаў пра гэта і таму абяцаў Касцёлу сваю прысутнасць "аж да канца свету" (Мц 28, 20)", – падкрэсліў кс.Паўліна. У другой палове дня пасля Адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту дэлегаты сесіі атрымалі благаславенне на далейшую працу і рэалізацыю рашэнняў, прынятых Сінодам.

***Кс. Уладыслаў Блін,***
*прэс-сакратар IV сесіі Сіноду.*

***На здымках: падчас працы IV сесіі Сінода.***



# З гамілii нунцыя Апостальскай Сталіцы арцыбіскупа Дамініка Грушоўскага на IV сесіі Сіноду у Баранавічах



Браты, любыя законныя сёстры, дарагія вернікі, члены і ўдзельнікі Сіноду! Святая Імша прысвечана Сіноду, чацвёртая сесія якога пачынаецца сёння.

Як нунцый, я хацеў бы паразважаць на тэму жыцця, прысвечанага Богу, — г.зн. законнага жыцця — *vita consecrata*. Сваю ўвагу я сканцэнтрую на чатырох пунктах:

1. Асаблівасць сітуацыі кансэкраванага жыцця на Беларусі.
2. Сабор аб кансэкраваным жыцці і яго паслясабаровае развіццё.
3. Падрыхтоўка да Сіноду біскупаў, прысвечанага кансэкраванаму жыццю, які адбыўся у 1994г.
4. Адгартацыя Святога Айца Яна Паўла II, якую Яго Святасць пасля Сіноду адрасаваў усяму Касцёлу, але перадусім членам законных супольнасцяў.

Аб асаблівасці сітуацыі. Вам добра вядома, што камунізм усе гады пасля 1917г., а ў нас у Славакіі пасля 1948-50гг. чыніў усё магчымае, каб знішчыць манаскае жыццё. Чаму? Думаю, што мы маем права, нават не толькі права, але і абавязак вучыцца ў нашых ворагаў. Чаму камуністы былі так супраць жыцця, прысвечанага Богу? Таму, што ў Ім бачылі свайго вялікага ворага. Думаю, што іншага адказу няма. Поўны адказ будзе гучаць так: яны ведалі, што пакуль законныя супольнасці жывуць сваім манаскім жыццём, да тае пары будуць існаваць ася родкі Божай любові, і таму стараліся знішчыць законы. У Славакіі ноччу з 14 на 15 красавіка 1950г. паліцыя ўварвалася ва ўсе мужчынскія кляштары. Законнікаў схапілі і адвезлі, як яны казалі, у «канцэнтрацыйныя кляштары» — у канцлагеры. Што адбылося потым? Дух Святы знайшоў выйсце. Ён надзяліў маладых людзей — хлопцаў і дзяўчат яшчэ большаю прагаю духоўнага жыцця, і скасаваныя навіцыяты патаемна адрадзіліся.Так было не толькі ў нас, у Славакіі, але і ў вас, на Беларусі. Я сустракаўся з маладымі салезіянамі, францішканамі, капуцынамі, бернардынамі, якія патаемна праходзілі навіцыят у савецкія часы. (...) Вы добра ведаеце, што тады галоўным было тое, каб дзесьці быў ксёндз, бо найперш патрэба была ў тым, каб хтосьці мог адправіць Святую Імшу, паспавядаць і ўдзяліць апошні сакрамэнт. Не істотна было, ці ксёндз дыяцэзіяльны, ці законнік. Але на самой справе гэтыя законнікі акрамя святарскіх абавязкаў, мелі яшчэ абавязак законнага жыцця. А гэта азначала, што Дух Святы не здаўся. Я перакананы, што гэтыя навіцыяты паўсталі з натхнення Духа Святога, інакай гэтага нельга вытлумачыць. Калі камуністычная сістэма распалася, стала відавочна, што гэта законнае жыццё, якое было ў падполлі, трэба ўпарадкаваць. Цікава, што на Сінодзе біскупаў (1990г.) найбольш востра супраць, так сказаць, не бязладдзя ў гэтай сферы, а пэўных неадпаведнасцяў нормам выступалі менавіта біскупы з законнікаў, і яны імкнуліся прыкласці як больш намаганняў, каб усё прыйшло ў парадак. (...)

Праблема заключаецца ў тым, каб спалучыць абавязкі законнага жыцця і т.зв. *exemptio* — непадуладнасць законнікаў агульнай юрысдыкцыі біскупа з душпастырствам, якім кіруе не правінцыял і не супэрыёр, а мясцовы біскуп — пастыр сваёй дыяцэзіі. (...) Я ўзгадваю пра гэта таму, што вы, напэўна, таксама сустрэнецеся з такой праблемай на сінадальных пасяджэннях, пры ўмове, што будзеце мець адвагу адкрыта казаць пра многія рэчы. Калі гэтай адвагі ў вас няма, то мы проста губляем час. Пра гэта трэба казаць, і казаць у духу Касцёла. (...)

За душпастырства ў дыяцэзіі адказвае перад Богам, Касцёлам і вернікамі лакальны біскуп. Ён — пастыр Касцёла. Адначасова ён нясе адказнасць і за тое, каб манаскае жыццё захавала сваю спецыфіку згодна з воляй Касцёла. На практыцы цяжка спалучыць патрабаванні гэтых абодвух бакоў, бо, напрыклад, пробашч хацеў бы, каб законніцы працавалі толькі для парафіі, а сёстрам хацелася б мець больш часу для сябе і г.д. Для вырашэння такіх праблемаў трэба шукаць узаемаразумення. Пра гэта пазней. Адначасова трэба паступаць так, як падказвае нам сумленне, але сумленне ў духу Касцёла. У гэтым пытанні, якое

*(Заканчэнне на с. 8)*

# З гаміліі нунцыя Апостальскай Сталіцы арцыбіскупа Дамініка Грушоўскага на IV сесіі Сіноду у Баранавічах

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 7)*

з'яўляецца другім пунктам майго разважання, існуюць пэўныя цяжкасці: як арганізаваць узаемаадносіны, каб былі яны на карысць апостальства і каб усе былі задаволены.

У 1978г. Кангрэгацыя біскупаў разам з Кангрэгацыяй па справах законаў выдала асобны дакумент *Motu relationes* (Узаемныя стасункі), які дакладна вызначае, што павінен рабіць біскуп, а што — законнікі... Гэты дакумент сведчыць пра тое, як змяняецца жыццё... Наша задача — гэта стварэнне добрых дакументаў, таксама і на вашым Сінодзе. Аднак, калі гэтыя дакументы не будуць сагрэты любоўю да Бога і людзей, а таксама шчырым душпастырскім клопатам, то нават найлепшыя з іх не дапамогуць.

(...) Нават найлепшы дакумент не заменіць сэрца і духу, якімі трэба яднаць Касцёл. (...) Яшчэ падчас падрыхтоўкі да Сіноду 1994г., дзесьці ўвосень выйшаў дакумент Кангрэгацыі па справах законаў пра неабходнасць любові ў духоўным жыцці законнікаў. Святы Айцец адчуваў, што ў гэтым сутнасць усёй праблемы. (...) Жыццё пераканала мяне, што той дакумент быў вельмі важным.

Такім чынам, падыходзім да трэцяй часткі маіх разважанняў. Трэба нам да гэтага дакументу пастаянна вяртацца, бо ён датычыць галоўнай праблемы, якая існуе ў законных супольнасцях. Законнікі добра ведаюць, што там, дзе няма ўзаемнай любові, — нічога не выходзіць, там пусцеюць кляштары і не папаўняюцца навіцыяты, занікаюць супольнасці. Сапраўды, калі ў супольнасці няма любові, то навошта яна існуе? Можа, вы не часта чуеце такія словы, але я лічу, што гэтыя праблемы трэба абмеркаваць і назваць іх. Інакш будзем хадзіць вакол іх, казаць прыгожыя словы, кланяцца, усміхацца, але праблема застанецца, браты і сёстры.

Надышоў кастрычнік 1994г. і распачаўся Сінод біскупаў. Здавалася, што Сінод сканцэнтруе ўвагу на іншай тэрміналогіі і праблематыцы. Гаворка ідзе пра тое, што ў законным жыцці важнейшае — пасланніцтва ці пасвячэнне, кансэкрацыя? Пасланніцтва — гэта канкрэтная праца, а пасвячэнне — гэта кансэкрацыя жыцця. Мы, біскупы з усходніх краінаў, якія перажылі камунізм, былі перакананыя, што найважнейшае — гэта кансэкрацыя, пасвячэнне Богу. У камуністычныя часы дзяўчаты і хлопцы не маглі выконваць таго пасланніцтва, якое мела іх законная супольнасць, але адчувалі заклік Бога прысвяціць Яму жыццё, а наконт працы, пасланніцтва — рабіць усё магчымае. Заходнія тэолагі большую ўвагу надавалі эфектыўнасці дзейнасці, поспеху. Браты і сёстры, што з'яўляецца поспехам у вачах Пана Бога? Апладысменты? Не. Тлумы людзей навокал? Таксама — не. З Панам Езусам у канцы яго дзейнасці было вельмі мала людзей — Ян і некалькі жанчынаў. Іншыя ўцяклі. А гэта быў самы плённы момант Яго жыцця. Поспех — гэта тое, што бачыць Бог, і што Ён лічыць поспехам. Стварэнне прыгожых арганізацый, якім бракуе духу, — гэта не поспех.

Пасвячэнне і пасланніцтва павінны быць разам, а менавіта гэта стварае цяжкасці. Цяжка паяднаць адно з другім, таму і неабходна кансэкрацыя — пасвячэнне асобнага жыцця Пану Богу. Аднак, патрэбна і пасланніцтва. Спытаюся ў вас, пробашчаў: навошта патрэбныя законныя сёстры? Каб навучалі катэхізісу. А ці думалі вы пра тое, што, каб добра навучаць, яны павінны быць добрымі законніцамі? Калі яны не будуць добрымі законнымі сёстрамі, то іх катэхізацыя не прынясе вынікаў. Катэхізацыя — гэта навучанне Евангеллю, а не якаясьці навука, як матэматыка альбо фізіка. Гэта навука аб Богу, чалавеку, жыцці, укаранёным у Богу. Гэта Евангелле. Дасканалых дыдактычных здольнасцяў недастаткова, каб вучыць катэхізісу. Каб даць гэтым дзецям і дарослым Бога, навучаючы веры і Евангеллю, мы павінны мець Бога ў сабе. Калі мы не маем Яго ў сабе і не пасвячаем сябе Яму цалкам, то будзем малаціць пустую салому. Гэта трэба добра ўсведамляць. У адгартацыі аб законным жыцці *Vita consecrata* Святы Айцец падкрэслівае неабходнасць спалучэння кансэкрацыі і пасланніцтва і кажа, што пасвечанае жыццё павінна быць глыбока ўкаранёна ў Трыадзіным Богу — Айцу, Сыне і Духу Святым. (...)

Дарагія браты і сёстры! Сёння і заўтра вы будзеце займацца гэтай тэматыкай. Як Апостальскі нунцый я лічыў сваім абавязкам указаць на гэтыя праблемы, на сітуацыю, у якой знаходзіцеся, на патрэбы, якія бачыць Касцёл ва ўзаемаадносінах, а перадусім на тую любоў, якая павінна быць сэрцам усяго, яднаць пасланніцтва і пасвячэнне, як гэта падкрэслівае Ян Павел II. Гэтую Эўхарыстыю таксама ахвяруйма ў інтэнцыі, каб у такім духу пайшла ваша праца і каб Пан Бог паблагаславіў тое, што вы будзеце рабіць. Каб Дух Святы натхніў такія рашэнні, якія прынясуць найбольшы плён і адначасова даў кожнаму сілу быць на сваім месцы — там, дзе нам Пан Бог прадвызначыў. Амэн.

# Homilia w czasie Mszy świętej w II dniu Sesji Plenarnej Synodu

**Baranowicze, 16 stycznia 1999 r.**

*" Biada mi, gdybym nie głosił Ewangelii"*
*(I Kor 9,16)*




Tematem drugiego dnia IV Sesji Plenarnej Synodu Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej jest: "Dzieło Misyjne Kościoła. Dzieło ewangelizacji łaską i obowiązkiem całego Kościoła" - tak zatytułował Papież Jan Paweł II swe orędzie na Swiatowy Dzień Misyjny.

Potwierdzeniem określenia dzieła ewangelizacji jako łaski są słowa św. Pawła w jego liście do Efezjan: "Mnie... została dana ta łaska: ogłosić poganom jako Dobrą Nowinę niezgłębione bogactwo Chrystusa" (Ef 3,8), a jako obowiązku - nakaz Chrystusa Pana: "Idźcie więc i nauczajcie wszystkie narody" (Mt 28,19).

Ojciec święty w tym Orędziu "uświadamia nam, że nie możemy spokojnie żyć wiedząc, iż miliony ludzi nie miały okazji usłyszeć Dobrej Nowiny o zbawieniu. Chrześcijanin powinien doznawać wyrzutów sumienia takich samych, jakie nękały Apostoła Pawła i kazały mu wołać: "Biada mi, gdybym nie głosił Ewangelii" (I Kor 9,16).

Ponieważ cały Kościół ze swej natury jest misyjny, odpowiedzialnymi za dzieło misyjne Kościoła są Papież, biskupi, kapłani, osoby zakonne i wierni świeccy. Obowiązek bezpośredniej, czy pośredniej współpracy w misyjnym dziele w większym, czy mniejszym zakresie, zależnie od posiadanych możliwości, ciąży więc na wszystkich członkach Kościoła.

Pierwszą i niezastąpioną formą dzieła ewangelizacji jest świadectwo życia chrześcijańskiego misjonarza, rodziny chrześcijańskiej i kościelnej wspólnoty. Ojciec Swięty Jan Paweł II w swej encyklice *Redemptoris Missio* wyraźnie zaznacza, że "Człowiek współczesny bardziej wierzy świadkom aniżeli nauczycielom, bardziej doświadczeniu aniżeli doktrynie, bardziej życiu i faktom aniżeli teoriom" /RM 42/.

Obok świadectwa życia chrześcijańskiego we współpracy misyjnej powinna być modlitwa, aby głoszenie Słowa odniosło skutek dzięki łasce Bożej. Z modlitwą trzeba łączyć ofiarę cierpienia w intencji misjonarzy. Sw. Teresa od Dzieciątka Jezus swoim przykładem życia dowiodła, że każdy z nas przez modlitwę i poniesione ofiary cierpień bardzo skutecznie może służyć i pomagać misjonarzom w ich ewangelizacyjnym posłannictwie.

Konieczna jest też troska o powołania misyjne, by nie zabrakło chętnych oddania się dziełu misyjnemu. Głoszenie Ewangelii wymaga głosicieli, żniwo potrzebuje żniwiarzy, misjom koniecznie potrzebni są "szaleńcy Boży", gotowi oddać siebie na całe życie dziełu Ewangelii i iść na cały świat, by nieść zbawienie (por. RM 79).

W miarę możliwości należy starać się o zdobywanie dla misji materialnej pomocy, koniecznej dla budowy obiektów kościelnych i utrzymania dzieł charytatywnych i wychowawczych w ubogich krajach misyjnych. "Kościół na całym świecie pragnie być Kościołem ubogich" - tak powiedział Ojciec święty w czasie swych odwiedzin w Brazylii. Ta prawda powinna być stosowana szczególnie w krajach misyjnych. Pierwszymi odbiorcami misji powinni być ubodzy i słabi. Swą ofiarnością trzeba przyczyniać się do tworzenia na terenach misyjnych ośrodków zdrowia, zwłaszcza dla trędowatych, sierocińców, domów opieki dla niepełnosprawnych i starych. "Te bowiem dzieła dają świadectwo o duchu całej działalności misyjnej: o młodości, która jest siłą pobudzającą misji" (RM 60).

Drodzy Bracia i Siostry!

"Zbliżając się do Wielkiego Jubileuszu roku 2000, pomyślmy o naszym własnym misyjnym zaangażowaniu, o wzbudzaniu misyjnego zapału wśród naszych rodzin, wspólnot, w parafiach zarówno wśród dorosłych, jak i wśród dzieci i młodzieży. Niech nasza modlitwa i konkretny czyn dotykają krańców ziemi, gdzie Chrystus pragnie być znany i kochany" (z listu Episkopatu Polskiego 19.X. 1997).

Na skuteczną współpracę w ewangelizacji świata niech Wam Bóg błogosławi.

***Kazimierz Kardynał Swiątek***

# Каталіцкія іерархі асуджаюць агрэсію супраць Ірака

Святы Айцец Ян Павел II асудзіў снежаньскія бамбардзіроўкі Ірака і выказаў шкадаванне з нагоды новага праліцця крыві ў гэтым рэгіёне. Каталіцкі Патрыярх Багдада Рафаэль Бідавід назваў бамбардзіроўкі атакай "амаральных маралізатараў".



Парадаксальнымі ён назваў словы Клінтана з прамовы да нацыі, у якіх той абвінаваціў Хусэйна ў хлусні. "Клінтан пайшоў на гэты крок з-за пагрозы адхілення яго ад улады па прычыне ўласнай хлусні ў скандале з Монікай Левінскі", – сказаў Патрыярх хальдэяў. "Ужо восем гадоў вядуцца пошукі зброі і нічога не знойдзена, аднак эмбарга прыносіць краіне моцныя выпрабаванні і на яго кладзецца адказнасць за смерць каля мільёна дзяцей з-за недахопу прадуктаў харчавання і лекаў". Амерыканскія біскупы таксама асудзілі выкарыстанне ваеннай сілы супраць Ірака. "Гэтая вайна не мае абсалютна ніякага апраўдання і з'яўляецца забойствам непавінных людзей", – заявіў біскуп Дэтройта Томас Гэмблтан. Паводле паведамлення агенцтва Fides, лічба ахвяраў англа-амерыканскай авантуры – 40 забітых і 50 параненых, сярод якіх шмат мірных жыхароў. У выніку бомбавага ўдару па Багдадзе быў пашкоджаны будынак міністэрства асветы і сядзіба ўпраўлення бяспекі. Адна з ракетаў трапіла ў водаправод, які забяспечвае цэнтральны раён Багдада Каррада.

***KAI***

***Ахвяры бамбардзіровак Багдада: людзі і дамы.***
*Фота з "L'Osservatore Romano"*



## Ватыканскі прэс-сакратар супраць спекуляцый вакол пытання пра здароўе Папы

Хаакін Наварра-Вальс, прэс-сакратар Апостальскай Сталіцы, заявіў, што стан здароўя Папы для ўсіх навідавоку і таму розныя здагадкі не маюць пад сабой ніякіх падставаў. Ён не абвергнуў таго, што Святы Айцец пакутуе ад хваробы Паркінсана, але звярнуў увагу на тое, што яна ніколі не праходзіць стандартна. У Папы дрыжанне левай рукі не распаўсюдзілася на правую руку і на ногі, і прагноз аб хуткай поўнай нерухомасці Яна Паўла II, апублікаваны ў Newsweek, зроблены заўчасна.

## Дар Папы для сіротаў

"Мястэчка Назарэт" – так называецца прытулак для 300 сіротаў, збудаваны па ініцыятыве Яна Паўла II у Кігалі (Руанда) за рэкордна кароткі тэрмін – паўтара года. Будоўлю не здолелі спыніць неспакойная сітуацыя ў рэгіёне і мучаніцкая смерць дыяцэзіяльнага эканома, францішканіна а.В'екаслава Курыча, які ажыццяўляў нагляд за рэалізацыяй праекта.

У выніку генацыду 1994г. у Руандзе засталося толькі 300 тыс. дзяцей. Палова з іх жыве на вуліцы, займаючыся жабрацтвам або крадзяжом.

## Айцец Піо будзе беатыфікаваны 2 мая 1999г.

2 мая 1999г. Ян Павел II абвесціць благаславёным айца Піо з Пэтрэльчыны, італьянскага капуцына, стыгматыка і цудатворцу, які памёр 30 гадоў таму. Непасрэдная падстава беатыфікацыі – афіцыйнае пацвярджэнне камісіяй урачоў і тэолагаў цудоўнага аздараўлення праз пасрэдніцтва а.Піо італьянкі Кансіліі дэ Марціна ў 1995г.



## Мілан: XXI Еўрапейскае спатканне маладых

1 студзеня ў Мілане скончылася XXI Еўрапейскае спатканне маладых, арганізаванае Супольнасцю з Тэзэ і мясцовым Касцёлам. У ім прынялі ўдзел каля 100 тыс. пілігрымаў з 37 краін, у тым ліку ўсходнеўрапейскіх, Ізраіля і Іарданіі. Газета «Corriere della Sera» назвала спатканне *«мірным нашэсцем на Мілан»*. Іншая міланская газета акрэсліла яго як *«аазіс малітоўнага засяроджання ў моры міланскага матэрыялізму»*.

## Інданезія: біскуп асудзіў забойствы абвінавачаных у чараўніцтве

Каталіцкі біскуп дыяцэзіі Маланг у Інданезіі Герман Пандаяпутра асудзіў забойства людзей, западозраных у чараўніцтве. 3 мая мінулага года ва ўсходняй частцы вострава Ява было забіта больш за 100 «варажбітоў», якія, у асноўным, былі членамі ісламскай арганізацыі інтэлектуалаў.

«Закранута наша сумленне», – напісаў у лісце біскуп Пандаяпутра, які падкрэсліў, што большасць забітых не займалася магіяй, а абвяшчала веру ў Адзінага Бога і Яго прарока.

***KAI***

# Мальтыйскі Ордэн – самая маленькая дзяржава ў свеце

Суверэнны Вайсковы Мальтыйскі Ордэн атрымаў статус дзяржавы ў выніку паразуменняў, заключаных з уладамі Рэспублікі Мальта. Закону вернуты Замак св.Яна, які будзе карыстацца прывілеем экстэрытарыяльнасці. У сваіх наноў атрыманых уладаннях мальтыйскія кавалеры плануюць стварыць асяродак хуткага рэагавання, які будзе выкарыстоўвацца для аказання гуманітарнай дапамогі падчас стыхійных бедстваў у рэгіёне. Цяпер над замкам лунаюць сцягі Мальты і Ордэна.


Сцяг Мальтыйскага Ордэна

Суверэнны Вайсковы і Шпітальны Ордэн св.Яна Ерузалімскага з Радосу і Мальты – самы вялікі хрысціянскі шпітальны і рыцарскі закон. Ён быў заснаваны ў 1099г., у часы першага Крыжовага Паходу на Святую Зямлю. Першапачаткова гэта быў шпіталь для пілігрымаў, які дзейнічаў пры касцёле св.Яна Хрысціцеля ў Ерузаліме. Законная супольнасць рыцараў св.Яна была зацверджана ў 1113г. булай Папы Пасхаліса II.

Пасля захопу мусульманамі апошняй хрысціянскай крэпасці ў Святой Зямлі – Акі, рыцары апынуліся на Кіпры, а з 1305г. яны аселі на Радосе, дзе займаліся дабрачыннай, вайсковай і палітычнай дзейнасцю. Між іншым, рыцары мелі магутны флот, які некалькі стагоддзяў бараніў хрысціянскія дзяржавы ад турэцкага нашэсця. Але ўрэшце туркам удалося здабыць Радос і пасля некалькіх гадоў блукання ў 1530г. рыцары пасяліліся на Мальце. У 1798г. Напалеон Банапарт, вяртаючыся з паходу на Егіпет, захапіў выспу і выгнаў адтуль усіх рыцараў. З таго часу сядзіба Ордэну знаходзілася ў Рыме. Сёння Мальтыйскі Ордэн з'яўляецца дабрачыннай арганізацыяй, якая валодае шматлікімі шпіталямі, лякарнямі і прытулкамі ва ўсім свеце і налічвае 12 тыс. членаў. Ён (адзіны з усіх ордэнаў) падтрымлівае дыпламатычныя стасункі з 80 краінамі і ўваходзіць у склад многіх міжнародных арганізацый.

***KAI***

# ФАЛЬШЫВЫЯ СВЕДКІ

***Сёння існуе шмат рэлігійных супольнасцяў і цэркваў, якія заахвочваюць людзей да вывучэння Бібліі або паглыблення ведаў пра яе. На самой справе многія з іх сваё веравучэнне засноўваюць не на Святым Пісанні, а на сваіх уяўленнях пра яго. Адной з такіх рэлігійных арганізацый з'яўляюцца сведкі Іеговы.***

Веравучэнне сведкаў Іеговы заснавана на суб'ектыўнай трактоўцы ідэолагамі секты Святога Пісання, з-за чаго яно супярэчыць не толькі навучанню каталіцкага Касцёла, але часта і здароваму сэнсу. Даследчыкі рэлігіі, рэлігіязнаўцы часта не адносяць сведкаў Іеговы да хрысціянскіх канфесій з-за таго, што яны аспрэчваюць асноўныя праўды хрысціянскай веры, агульныя для ўсіх хрысціянаў: Боства Езуса Хрыста, Тройцу, уваскрэсенне Хрыста і г.д.

Паглядзім на некаторыя з праўдаў нашай веры, якіх не хочуць прызнаваць іегавісты у святле Святога Пісання – Бібліі.

**Бог адзіны ў трох Асобах.** Іегавісты не прызнаюць існавання Тройцы, Богам для іх з'яўляецца толькі Бог-Айцец, якога яны называюць ІЕГОВА. Сярод шматлікіх фрагментаў Бібліі, якія ставяць пад сумненне такое сцвярджэнне, можна прывесці сведчанне апостала Яна: "Бо тры сведчаць на небе: Айцец, Слова і Святы Дух, і гэтыя тры ёсць адно" (1 Ян 5, 7). Гэты верш Таварыства Вартавой Вежы (іегавісцкі "касцёл", які навучае) лічыць больш позняй устаўкай у Новы Запавет, г.зн. ілжывай. Пра адзінства Айца, Сына і Святога Духа сведчаць і словы самога Хрыста: "Дык ідучы, навучайце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца і Сына і Духа Святога" (Мц 28,19)

**Боства Езуса Хрыста.** Сведкі Іеговы не прызнаюць Езуса Богам. Як сын Божы (з малой літары) ён быў створаны Айцом, а потым разам з Ім прымаў удзел у стварэнні свету. Перад тым, як стаць зямным чалавекам Езусам, на небе ён быў арханёлам Міхалам.

Нястворанасць Езуса, Яго спрадвечнае існаванне пацвярджае вядомы верш з Евангелля паводле Яна: "На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова" (Ян 1, 1). Аб боскасці Езуса кажа і апостал Юда: "Бо пракраліся некаторыя людзі, здаўна прызначаныя на гэтае асуджэнне, бязбожнікі, што ласку Бога нашага абарочваюць на распусту і адзінага Валадара, Бога і Пана нашага Езуса Хрыста, выракаюцца" (Юда 4).

**Святы Дух – Асоба Божая.** Сведкі Іеговы не прызнаюць ні Боства Святога Духа, ні таго, што Ён – Асоба, а лічаць Яго толькі нябачнай сілай Бога, нечым накшталт "сігналаў радара" ("Watchtower", 15 чэрвеня 1957г.)

Біблія ж кажа: "Але прымеце сілу, як зыйдзе на вас Дух Святы і будзеце мне сведкамі і ў Ерузалеме, і ўва ўсёй Юдэі і Самарыі ды ажно па край зямлі" (Дз 1, 8) Дух Святы сам здольны перадаць сілу, бо Ён – такая ж Асоба, як Айцец і Сын. Тыя ж Дзеі выразна паказваюць і Яго Боскасць: "Але Пётр сказаў: Ананія! навошта ты дазволіў шатану ўкласці ў сэрца тваё думку, сказаць няпраўду Духу Святому і прыхаваць з цаны на зямлю? Чым ты валодаў, ці ж не тваё было, і набытае з продажу ці ж не ў тваім валоданні было? Навошта ж паклаў гэта ў сэрцы тваім? Ты няпраўду сказаў не людзям, а Богу" (Дз 5, 3-4)

**Уваскрэсенне Хрыста.** Сведкі лічаць, што цела Езуса, пакладзенае ў гробе, хутка "расшчапілася на атамы", а Хрыстус з'яўляўся сваім вучням пасля ўваскрэсення ў нейкім "духоўным целе".

Але што ж, як не фізічнае ўваскрэсенне Збаўцы, адным з першых засведчыў апостал Тамаш, калі ўклаў свае пальцы ў Хрыстовыя раны. Каб пераканацца ў факце ўваскрэсення, трэба ўспомніць два фрагменты са Святога Пісання: "А калі Хрыстус не ўваскрос, дык і пропаведзь ваша марная, марная і вера ваша" (1 Кар 15, 14) і "а Той, каго Бог уваскрасіў, не ўбачыў тлення" (Дз 13, 37).

**Душа пасля смерці.** Іегавісты лічаць, што чалавечая душа памірае разам з целам, бо яна не з'яўляецца нематэрыяльнай часткай чалавечай істоты, а ёсць самім жыццём. Пасля смерці чалавек ўжо нічога не адчувае, няма ніякага пекла, дзе людзі пакутуюць за свае грахі. Раю таксама няма, ён наступіць на зямлі пасля Армагедона, тады ўсе праведнікі ўстануць з магілаў і будуць жыць у тысячагадовым царстве Іеговы.

Пра несмяротнасць душы сведчаць словы ўкрыжаванага Хрыста злодзею: "Сапраўды кажу табе: сёння будзеш са Мною ў раі" (Лк 23, 43). А вершы: "І пойдуць гэтыя на муку вечную, а справядлівыя ў жыццё вечнае" (Мц 25, 46); "І не бойцеся тых, што забіваюць цела, а душы забіць не могуць, але бойцеся болей таго, хто можа і душу, і цела загубіць у геене" (Мц 10, 28) нагадваюць, што грэшнікаў пасля смерці чакае мука вечная – пекла.

"Таварыства Вартавой вежы" знакамітае сваімі апакаліптычнымі прароцтвамі, якія маюць сталую тэндэнцыю не спраўджвацца. Першы раз "даследчыкі Бібліі" чакалі прыйсця Хрыста ў 1874г. Праз некаторы час пасля няўдалага прароцтва пачало ўжывацца паняцце "нябачнай прысутнасці" Хрыста пасля 1874г. У 1914г. згодна з прароцтвамі "даследчыкаў" павінны былі скончыцца "дні паганаў" – падзенне зямных дзяржаў і ўсталяванне Валадарства Божага на зямлі. У 1925г. чалавецтва павінна было стаць сведкам уваскрашэння прабацькоў – Абрагама, Ісаака, Якуба і "верных прарокаў старажытнасці". Спецыяльна для старазапаветных праведнікаў у Сан-Дыега (Каліфорнія) была пабудавана віла "Бэт-Сарым". На 1975г. прэзідэнт Таварыства Вартавой Вежы Ф.Франц прызначыў Армагедон і канец чалавечай гісторыі. Шмат хто са сведкаў Іеговы тады прадаў свае дамы і маёмасць, чакаючы новай сусветнай вайны і ўсталявання Валадарства Божага на зямлі. Натуральна, усе чаканні ў чарговы раз былі дарэмнымі. У наш час ідэолагі секты не лічаць патрэбным пра гэта ўспамінаць, затое галоўным аб'ектам іх нападаў і шматлікіх абвінавачванняў па-ранейшаму з'яўляецца каталіцкі Касцёл.

*Падрыхтаваў*
*Яўген Усошын*



**Хрысціянскі свет у лапах апакаліптычнага дракона**
(малюнак з "Вартавой вежы")

**Справаздача аб дзейнасці сведкаў Іеговы ў 1998г. на Беларусі.**

**Сярэдняя колькаць "абвеснікаў" у 1998г. – 2 187.**
**Колькасць жыхароў на аднаго "абвесніка" – 4 265.**
**Колькасць ахрышчаных у 1998г. – 193.**
**Колькасць збораў – 19.**
**Колькасць прысутных на Вячэры ўспаміну смерці Хрыста – 6 272.**
***("Straznica" №1 1999)***

## Расія: судовы працэс супраць сведкаў Іеговы

Нядаўні судовы працэс супраць сведкаў Іеговы выклікаў трывогу ў расійскіх праваахоўнікаў. "Гэта першы прыклад намаганняў забараніць дзейнасць зарэгістраванай арганізацыі", – паведаміла старшыня маскоўскай Хельсінскай групы Людміла Аляксеева. Кіраўнік аддзела па кантактах з грамадствам Кіраўнічай Карпарацыі сведкаў Іеговы Аляксей Назарычаў нагадаў, што іх рэлігійная арганізацыя была афіцыйна зарэгістравана ў 1913г. у Фінляндыі, якая тады была часткай Расійскай імперыі. Пасля далучэння да СССР Бесарабіі, Заходняй Украіны і Прыбалтыкі на тэрыторыі Краіны Саветаў з'явіліся тысячы "даследчыкаў Бібліі" (тагачасная назва сведкаў Іеговы). Каля 5 тыс. з іх былі сасланыя ў Сібір і Казахстан, трапілі за веру ў турмы і лагеры. Але, на агульную думку, нягледзячы на прававую рэабілітацыю, сведкі Іеговы так і не атрымалі "грамадскай рэабілітацыі".

Працэс супраць сведкаў Іеговы адбыўся 17-18 лістапада 1998г. ў Галовінскім міжмуніцыпальным судзе Масквы паводле іску пракуратуры Паўночнай акругі. Яны былі абвінавачаныя ў тым, што даводзілі людзей да самагубстваў і цяжкіх псіхічных захворванняў, прыцягвалі ў абшчыну дзяцей без згоды бацькоў і ўдзельнічалі ў разбурэнні сем'яў. Суд аднак палічыў усе довады істцоў недастатковымі для забароны дзейнасці гэтай рэлігійнай арганізацыі.

*КАІ*

# ДЫСКУСІЯ СА СВЕДКАМІ ІЕГОВЫ: ЗА І СУПРАЦЬ

**Сотні тысяч сведкаў Іеговы штодзённа стаяць на вуліцах гарадоў, стукаюцца ў дзверы дамоў ва ўсім свеце, прапануючы ўлёткі ("трактаты") і рознакаляровыя часопісы "Пробудись" і "Сторожевая башня". Ці трэба дыскутаваць з "абвеснікамі"? Прапануем два супрацьлеглыя пункты погляду на гэтае пытанне.**

**ЗА:** Сведкі Іеговы добра навучаныя і падрыхтаваныя. Размаўляць і спрачацца з імі не так проста. Нягледзячы на гэта, хрысціяне абавязаныя дабравесціць ім аб трыадзіным Богу і Езусе Хрысце – Збаўцы. Прыхільнікі "Вартавой вежы" пры нашых дзвярах – гэта шанец для дабравесця. І падрыхтоўка да грунтоўнай размовы апраўдае сябе. Хто адчувае сябэ няпэўна, можа запрасіць сведкаў Іеговы ў іншы час, каб прыцягнуць яшчэ аднаго хрысціяніна-верніка. Але да і пасля сустрэчы з імі трэба маліцца аб тым, каб правесці размову ў атмасферы ветлівасці, добразычлівасці і мудрасці і каб Пан усцярог ад ілжэвучэння.

Мы павінны ведаць Пісанне, добра ў ім арыентавацца і адначасова разбірацца ў вучэнні гэтай секты. Калі сведкі Іеговы і кажуць штосьці пра Езуса Хрыста як Сына Божага, дык яны разумеюць пад Ім арханёла Міхала. Такія паняцці, як "Пан", "Хрыстус", "збаўленне" і г.д. неабходна фармуляваць зусім ясна.

У дыскусіях наконт біблійных вершаў вельмі важна не скакаць ад урыўка да ўрыўка, абмяжоўвацца абранай тэмай і вершамі, разглядаючы іх у кантэксце. У размове са сведкамі Іеговы неабходна таксама падкрэсліць, што за аснову трэба прызнаць Святое Пісанне, а не іхні скажоны пераклад Бібліі. Можна нагадаць пра няздзейсненыя прароцтвы наконт другога прыйсця Хрыста або падзеяў апошніх часоў, звязаных з гадамі 1874, 1914, 1925 і 1975; спытаць, ці яны насамрэч жадаюць прызнаць за абсалютны аўтарытэт арганізацыю, якая так часта памылялася?

Безумоўна, асабістае сведчанне пра збаўленне Езусам Хрыстом нашмат больш важнае за любую дыскусію. Езус Хрыстус праз жывых хрысціянаў кліча і іх.

***Д-р Лотар Касман,***
*дацэнт дагматыкі і апалагетыкі вольнай тэалагічнай акадэміі ў Гісэн*

**СУПРАЦЬ:** Увайшоў мужчына і абвясціў: "Я – сведка Іеговы!" Мой дзядуля выпрастаўся і сказаў: "А я – сведка Езуса Хрыста!". Абвеснік павярнуўся – і толькі яго і бачылі. Словы майго дзядулі адначасова былі і выразным сведчаннем, і адказам на пытанне, ці павінны хрысціяне ўступаць у дыскусію са сведкамі Іеговы. Канечне, мы абавязаныя распавесці ім пра веру ў Езуса Хрыста хаця б таму, што ім невядомая асноўная бясспрэчная ісціна, а калі і вядомая, дык у скажонай форме.

Сведкі Іеговы – гэта ўсё, што заўгодна, толькі не хрысціянская канфесія. Кожны вернік, які ведае Біблію, грунтоўна пазнаёміўшыся з іх веравучэннем, жахнецца і будзе глыбока спачуваць гэтым пазбаўленым духоўнай самастойнасці і падманутым бліжнім. Яны пазбаўлены ўсёй радасці веры ў Хрыста. І адбываецца гэта ў выніку рафінаваных формаў навучання, якія былыя сведкі называюць "прамыўкай мазгоў". Я не лічу сведкаў Іеговы годнымі пагарды, я кажу аб вядомых усім фактах, апублікаваных "Таварыствам Вартавой Вежы". Не! Ніякіх дэбатаў! Яны нічога не прынясуць, бо пацярпелыя, г.зн. сведкі Іеговы, з-за палярнасці думак і паводле сваіх перакананняў няздольныя адкрыта і шчыра рэагаваць. У сціслай форме, проста і добразычліва сказаць аб Хрысце, маліцца за людзей з надзеяй, што на падставе глыбокага жыццёвага вопыту і ў шчырых сумненнях яны знойдуць выйсце з пасткі іх заблытанай рэлігіі – вось задача хрысціяніна.

***Пастар Ян Ханзэн.***

*Паводле часопіса "Вера и жизнь"*

# Чаму каталікі не называюць Бога Іеговай?

Кнігі і брашуры сведкаў Іеговы даводзяць, што да Бога трэба звяртацца толькі з імем Іегова. Аднак само Святое Пісанне сведчыць пра тое, што Ягвэ (Іегова) – адно з многіх імёнаў Бога, якія звычайна падкрэсліваюць, хто Ён і які Ён. Калі ў кнізе Зыходу Бог называе сябе "Ягвэ" (г.зн. "Існы"), то прароку Ісаі Ён адкрывае іншае Сваё імя – Адкупіцель (Іс 63, 13). Паміраючы на крыжы, Езус клікаў Бога імем "Элоі" (Мк 15, 34).

Божае імя "Існы" па габрэйску пішацца чатырма зычнымі літарамі – "Йуд-Гі-Вав-Гі". Гэта можна прачытаць па-рознаму: "Ягвэ" або "Іегова". З пашаны да святога імя габрэі не вымаўлялі яго, а чыталі "Аданай" (Пан) або нават проста "Гашэм" (Імя). Ні Езус, ні апосталы у Новым Запавеце ніводнага разу не называюць Пана Іеговай. Малітва Панская не пачынаецца са словаў: "Іегова Божа", але: "Ойча наш". Называючы сябе Ягвэ, Бог дае людзям разуменне Сваёй Істоты як паўнаты ўсялякага існавання. Ён быў, ёсць і будзе.

"Таму і Бог узнёс Яго і даў Яму імя вышэй за ўсякае імя, каб прад імем Езуса схілілася кожнае калена на небе, на зямлі і ў апраметнай" (Флп 2, 9-10). Імя Езус (Іешуа) азначае "Ягвэ збаўляе". Задайце сведкам Іеговы, якія завіталі да Вас, наступныя пытанні:

**1.** Якому імені падпарадкоўваюцца дэманы? (гл. Лк 10, 17; Дз 16, 18)

**2.** У імя каго павінна прапаведавацца пакаянне і адпушчэнне грахоў? (Лк 24, 17)

**3.** Чыім толькі імем нам належыць атрымаць збаўленне? (Дз 4, 12)

**4.** У імя каго мы павінны прасіць у малітве? (Ян 14, 13-14; 15, 16; 16, 23-24)

**5.** Чыё імя найвышэйшае за усе імёны? (Эф 1, 21; Флп 2, 9-11)

**6.** Чыё імя павінна праслаўляцца? (2 Тэс 1, 11-12)

***А. Солад***

***У студзені ў Пінскай катэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны адбыўся Дзень сям'і, які штогод традыцыйна адзначаецца ў Касцёле.***

# Вялікая каштоўнасць сям'і



У гэтым артыкуле мне хацелася б звярнуць увагу на значэнне мацярынства і бацькоўства, бо сёння назіраецца пэўны недахоп разумення іх ролі як у самой сям'і, так і ў грамадстве. Без усведамлення іх значэння і ўзаемнай адказнасці цяжка казаць пра сям'ю, якая правільна жыве і развіваецца, а таксама пра развіццё грамадства і пра яго дзейнасць на карысць дзяржавы і яе годнай будучыні.

Сужэнцы, становячыся бацькамі, ужо з самага пачатку павінны разумець, што іх адказнасць распаўсюджваецца не толькі на зачацце, нараджэнне дзіцяці і забеспячэнне ўсяго, што датычыць развіцця чалавечага арганізма, але таксама і на духоўнае выхаванне дзіцяці.

Сапраўднае духоўнае выхаванне дзіцяці рэалізуецца праз уласцівую бацьку і маці канкрэтную дапамогу ў выпрацаванні цнотаў – адносінаў, дзякуючы якім дзіця зможа рабіць добрыя ўчынкі, з кожным разам усё больш прыгожыя і разнастайныя, якія будуць падабацца бацькам і асяроддзю. Нагадаю, што згода паміж бацькамі, іх добразычлівасць у адносінах з людзьмі з'яўляюцца плённаю дапамогаю ў выхаванні.

Адказнасць бацькоў таксама распаўсюджваецца на ўзрастанне ў дзіцяці любові да Бога. Гэтая цнота развіваецца праз спалучэнне добрых учынкаў з пэўнай праўдаю веры. "Тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых меншых братоў Маіх, (г.зн. тых, хто патрабуе вашых добрых учынкаў), вы зрабілі Мне", – кажа Пан Езус (Мц 25, 40). Узаемная спагадлівасць бацькі і маці – важная і незаменная дапамога ў выхаванні цнотаў у дзіцяці.

Бацькі таксама адказныя за выхаванне дзяцей у веры, за дапамогу ў пазнанні Пана Бога, Ягонай волі, Яго збаўчага плану. Такія выхаваўчыя чыны вядуць да малітвы і зааахвочваюць дзяліцца з людзьмі духоўным багаццем.

Малітоўнае жыццё бацькоў нараджае дух малітвы ў дзіцяці. Супольная малітва сям'і яднае яе членаў паміж сабой і з Панам Богам і будуе паўнавартасную ячэйку грамадскага арганізма.

Калі дзіця вызначаецца цнотамі, робіць учынкі, якія сведчаць пра Божую любоў, – ягоная вера развіваецца, а гэта значыць, што бацькі адказна ставяцца да сваіх абавязкаў, і іх сям'я ідзе па шляху хрысціянскай дасканаласці.

Хрысціянам трэба знаходзіць спосабы нагадваць грамадству, што бацькоўства паходзіць ад Бога, і ў гэтым ягоная выключная і вечная годнасць. Мацярынства таксама мае вялікую годнасць, аб якой сведчыць Божая Маці – узор для ўсіх маці. Значэнне паклікання і пасланніцтва бацькі і маці павінна ўсведамляцца не толькі тады, калі маладая пара заручаных рыхтуецца да сакрамэнту сужэнства, але таксама і ў моманты асаблівай адкрытасці на слова Божае, якое навучае гэтай непаўторнай годнасці. Такімі момантамі з'яўляюцца, напрыклад, Святы Хрост дзіцяці, спецыяльнае благаславенне бацькі і маці і г.д.

***Кс. Станіслаў Паўліна fDP***

# Новы грэка-каталіцкі святар у Мінску



Новым пробашчам грэка-каталіцкай парафіі св.Язэпа ў Мінску стаў а.Андрэй Абламейка. Ён быў пасвечаны на дыякана ў 1991г., у час адраджэння грэка-каталіцкай Царквы на Беларусі. Святарскае пасвячэнне а.Андрэй атрымаў 16 снежня 1998г. у Любліне з рук Мітрапаліта Перамышльска-Варшаўскага Івана Мартыняка. Парафія св.Язэпа – адна з самая першых адроджаных грэка-каталіцкіх парафій, душпастырам якой да сваёй заўчаснай смерці ў верасні 1998г. быў протапрасвітар Ян Матусевіч.

Парафіяльныя богаслужэнні адбываюцца ў прыстасаваным пад капліцу памяшканні другой Мінскай парафіі іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі, дзе ў нядзелі і святы бывае зусім цесна. Пры парафіі дзейнічае нядзельная школка для дзяцей. Айцец Андрэй жанаты, мае двух дзетак – сына і дачку.

***А.Солад***



## Патройны юбілей кс.Люцыяна Хмялёўца

**Кс. пралат Люцыян Хмялёвец**, сын Войцеха і Валерыі (з Сівіцкіх) нарадзіўся 12 мая 1914г. у г.Апатуве (Польшча). У сям'і Хмялёўцаў было 15 дзяцей. Люцыян скончыў тэалагічны факультэт Віленскага універсітэту; святарскае пасвячэнне атрымаў 18 чэрвеня 1939г. у Віленскай катэдры з рук арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага. У цяжкія гады праследаванняў Касцёла кс.Люцыян быў душпастырам ў Ваўкалаце, Канстанцінаве, а з 1964г. ён з'яўляецца пробашчам парафіі Унебаўзяцця НМП у вёсцы Дзераўная Стаўбцоўскага р-на. У гэтым годзе ён адзначае 85-годдзе з дня нараджэння і 60-годдзе святарскага служэння, 35 з якіх аддадзеныя парафіі ў Дзераўной. Штогод 7 студзеня ў дзень св.Люцыяна пачэсны кс.пралат, адзін са старэйшых каталіцкіх святароў на Беларусі, прымае віншаванні ад братоў у святарстве і вернікаў сваёй парафіі. Мінулы год прынёс юбіляру асаблівую радасць: ягоны духоўны сын – кс.Антоні Дзямянка – прыняў біскупскае пасвячэнне.

***Pluribus annos!***

# Канфірмацыя ў Мінскай архікатэдры



***У Мінскай архікатэдры Імя Найсвяцейшай Марыі Панны ужо стала добрай традыцыяй прымаць сакрамэнт Бежмавання на свята Хросту Пана Езуса. Вось і сёлета сакрамэнт Бежмавання з рук Я.Э. кардынала Казіміра Свёнтка і Я.Э. нунцыя Апостальскай Сталіцы арцыбіскупа Дамініка Грушоўскага прынялі больш за 100 вернікаў катэдральнай парафіі. З пастырскім словам да вернікаў звярнуўся Яго Эксцэленцыя Д.Грушоўскі.***

"Дарагія браты і сёстры! Сёння ўпершыню ў гэтай катэдры я дапамагаў удзяляць сакрамэнт Канфірмацыі. Я вельмі ўдзячны за гэта айцу кардыналу Казіміру Свёнтку. Сённяшні абрад бежмавання наводзіць мяне на некалькі думак. Па-першае, як жа блізкімі з'яўляюцца нашыя народы, бо словы, якімі ўдзяляецца святы сакрамэнт Канфірмацыі, і па-беларуску – "прымі знак дару Духа Святога"– і па-славацку – "прыймі знак дару Духа Свэтэго" – гучаць аднолькава. Па-другое, вялікая колькасць тых, хто сёння прыняў сакрамэнт Бежмавання, людзі ўжо немаладыя. Гэта вынік тых гадоў, якія вы, дарагія браты і сёстры, перажылі, калі тут не было біскупаў, святароў, і гэта катэдра была не такой прыгожай, як цяпер. За адраджэнне веры, аднаўленне святынь, за тое, што Касцёл на Беларусі развіваецца, дзякуйма Пану Богу.

Да свайго прыезду на Беларусь я працаваў біскупам у Славакіі. А там мне даводзілася шмат разоў удзяляць сакрамэнт Бежмавання, кожны раз прысутнічала 500, 600, 700, а аднойчы аж 800 бежмаваных, 800 маладых людзей. Гэта было ў Бяльчанах у паўночна-заходняй Славакіі... Безумоўна, ёсць розніца паміж нашымі народамі, паміж гісторыяй нашых краін, але, думаю, тут не трэба параўноўваць. Бо перад усім тут вельмі важная святасць і вера кожнага з нас, трэба верыць, і верыць не толькі вуснамі, не толькі вызнаннем веры, не толькі словам, але ўсім сваім жыццём...

Усе мы залежым ад Бога, Бог ёсць Панам нашага жыцця, Ён нам яго падараваў, мы атрымалі гэты дар з Яго рук, а Ён – вельмі добры, Бог нас любіць, толькі мы павінны няспынна давяраць Яму, мы павінны да іншых быць такімі ж добрымі, якім добрым ёсць Пан Бог да нас. І ўсё гэта пад уплывам Духа Святога, Якога сёння вы, бежмаванцы, атрымалі. Няхай гэты Дух Святы, Які сёння асабіста да вас прыйшоў, дапаможа вашаму ўнутранаму навяртанню. Толькі Ён можа гэта зрабіць, калі мы Яму дазволім. Я жадаю вам, каб вы, прыняўшы сёння дар Духа Святога, жылі і паступалі паводле Яго".

**Л.А.**

# КАСЦЁЛ ВЯДЗЕ Ў НОВУЮ ЕЎРОПУ

**З 28 па 30 студзеня па запрашэнні Патрыяршага Экзарха ўсёй Беларусі, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта ў нашай краіне знаходзілася дэлегацыя каталіцкага Касцёла Германіі на чале са старшынёй Саюза Біскупскіх Каталіцкіх Канферэнцый краін Еўропы біскупам доктарам Йозэфам Хамайерам.**

Падчас візіту нямецкія госці сустрэліся з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і кіраўніцтвам Беларускай Праваслаўнай Царквы. Паміж імі адбылася шчырая размова аб шляхах умацавання міжкасцёльнага дыялогу. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што яму вельмі прыемна бачыць людзей, якія з'яўляюцца вялікімі сябрамі праваслаўнай канфесіі і Мітрапаліта Філарэта. Прэзідэнт выказаў гатоўнасць абмеркаваць з нямецкімі гасцямі праблемы каталіцкага Касцёла, якія існуюць у нашай краіне.

Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт у сваёй прамове падкрэсліў важнасць намаганняў каталіцкага Касцёла і праваслаўнай Царквы, скіраваных на працэс аб'яднання Еўропы.

Аб уражаннях ад першага візіту ў нашу краіну расказаў біскуп доктар Йозэф Хамайер. Яго вельмі ўзрадвала рашучасць беларускага народа будаваць будучыню, яго вялікая духовасць. Біскуп асабліва падкрэсліў неабходнасць пошуку духовага аблічча новай Еўропы і значную ролю Касцёла ў гэтым працэсе.

Дэлегацыя таксама наведала факультэт тэалогіі Еўрапейскага Гуманітарнага Універсітэта (ЕГУ), дзе вядомы нямецкі тэолаг, дырэктар Інстытута Усходніх Цэркваў (што ў Баварыі) доктар багаслоўя Клаус Вырвалль прачытаў лекцыю студэнтам ЕГУ. Дарэчы, за развіццё дыялогу паміж Касцёлам і Царквой яму прысуджана званне Ганаровага доктара ЕГУ.

*С.Ю.*

## Мітрапаліт Кірыл незадаволены дыялогам з каталіцкім Касцёлам

Багаслоўскі дыялог з рымска-каталіцкім Касцёлам не прыносіць ніякіх вынікаў на практыцы, калі казаць пра вырашэнне праблемаў ў Заходняй Украіне і многіх іншых месцах, – заявіў 11 студзеня старшыня Аддзелу Знешніх Царкоўных Зносінаў Маскоўскага Патрыярхату Мітрапаліт Смаленскі і Калінінградскі Кірыл (Гундзяеў). "Мы не можам весці дыялог дзеля дыялогу. Або ён сапраўды дапамагае ва ўрэгуляванні адносінаў, або яго папросту не павінна быць", – дадаў Мітрапаліт. Гаворачы пра знешнія сувязі Маскоўскага Патрыярхату і кантакты паміж рознымі хрысціянскімі канфесіямі ў мінулым годзе, старшыня АЗЦС станоўча ацаніў Усеправаслаўныя спатканні ў Сафіі і Салоніках і ўдзел дэлегацыі РПЦ на VIII Агульным Зграмаджэнні Сусветнай Рады Касцёлаў у Харарэ. Ён падкрэсліў, што дыялог і кантакты з Евангеліцкім Касцёлам Германіі, Касцёлам Англіі, Епіскапальным Касцёлам ЗША і Сусветнай Лютэранскай Федэрацыяй карысныя для Рускай Праваслаўнай Царквы і будуць працягвацца.

## 96% жыхароў Польшчы – каталікі

34 млн 841 тыс. жыхароў Польшчы ахрышчаны ў каталіцкім Касцёле (95,6 %) – інфармуе «Статыстычны Штогоднік» за 1998 г. Каталікі аб'яднаныя ў 9.941 парафіяў. Колькасць святароў з 1990 да 1997г. павялічылася на 3,5 тыс. чалавек (з 23.578 да 26.911). На сённяшні дзень у польскіх семінарыях вучацца 4.614 клерыкаў. На аднаго святара прыпадае 1295 вернікаў. Праваслаўных у Польшчы — 554.860, лютэранаў — 87.300, старакатолікаў — 25.900, пяцідзесятнікаў — 18.650, адвентыстаў — 7.300; баптыстаў — 6.200, мусульманаў — каля 5.000, юдзяў — 1220, крышнаітаў, будыстаў і прадстаўнікоў астатніх вызнанняў разам — 6.000.

*KAI*

## Дзень св.Яна Боскі

30 студзеня салезіянская парафія св.Яна Хрысціцеля ў Мінску адзначыла дзень св.Яна Боскі. На канцэлебраванай Святой Імшы прысутнічалі кс.біскуп Антоні Дзямянка, святары мінскіх парафій, а таксама шматлікія вернікі. Прысутнічаў таксама амбасадар Італьянскай Рэспублікі Джаванні Чэруцці. Звяртаючыся да прысутных вернікаў, кс.біскуп Антоні сказаў: "Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце! Пра Яна Боску мы гаворым у незвычайны час – апошні год XX стагоддзя і апошні год другога тысячагоддзя хрысціянства. Мінае ўжо два тысячагоддзі, як Добрая Вестка знаходзіць водгук у сэрцах людскіх, два тысячагоддзі, як Бог асабліва апякуецца сваім людам. І, вывучаючы гісторыю Касцёла, мы бачым, што на розных этапах Бог паслугоўваўся рознымі людзьмі, каб данесці Добрую Вестку да ўсіх людзей. Сёння, у апошні дзень студзеня, мы адзначаем дзень святога Яна Боскі, які таксама ў гісторыі Касцёла пакінуў вялікую спадчыну і быў добрым знакам прысутнасці Бога Хрыста ў свеце".

*А.*

# SYNOD DLA

***Synod Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej odbył cztery Sesje Plenarne poświęcone: Normom generalnym, Powołaniu i posłannictwu wiernych świeckich w Kościele i w świecie, Małżeństwu i rodzinie, Kapłaństwu, Instytutom Życia Konsekrowanego i Stowarzyszeniom Życia Apostolskiego oraz Dziełu misyjnemu Kościoła. W tym samym czasie były prowadzone prace związane z Synodem biskupów Australii i Oceanii. Jakkolwiek różna jest ranga obu Zgromadzeń synodalnych, to jednak dobrze jest uświadamiać sobie rzeczywistość eklezjalną „innego" i „naszego" świata, przyjrzeć się temu drugiemu światu i jego Synodowi, zwracając uwagę na jego inicjatora, przygotowania, strukturę, inaugurację i zakończenie, miejce i organizację obrad, problematykę oraz końcowe dokumenty.***

***W czasie obrad Synodu Australii i Oceanii na Watykanie (21 XI - 12 XII 1998 r.), autor opracowania, był kilka dni we Włoszech i w Australii. Śledził informacje dotyczące tego wydarzenia i po jego zakończeniu, rozmawiał z Biskupem Diecezji Parramatta Kevinem Michaelem Manning.***

## 1. INICJATOR SYNODU

Ojciec Święty, Jan Paweł II w liście apostolskim „Tertio millennio adveniente" (1994 r.) wspomniał, że byłoby dobrze zorganizować w okresie poprzedzającym Jubileusz 2.000 szereg specjalnych zgromadzeń Synodu Biskupów różnych części świata.

Już się odbyły takie zgromadzenia poświęcone: Afryce, Ameryce, Azji, a teraz Australii i Oceanii.

Jest planowane jeszcze raz Zgromadzenie Synodalne dla Europy. Poprzednie odbyło się przed o-głoszeniem „Tertio millennio adveniente" w 1991 roku. Już zostały opracowane *Lineamenta*. Biskupi Białorusi, podobnie jak inne Episkopaty świata, otrzymali Ankietę. Aktualnie, na podstawie odpowiedzi Biskupów i osób zaproszonych do współpracy, opracowuje się *Instrumentum laboris*.

## 2. KOŚCIÓŁ KATOLICKI REGIONU OCEANII

W skład kościelnego regionu Oceanii wchodzi 25 państw położonych na wyspach, w tym Australia. Do niedawna przeważał w tym regionie świata protestantyzm i anglikanizm. Obecnie Kościół katolicki stanowi największą wspólnotę wyznaniową. Na 18,3 min Australijczyków katolicy stanowią 29%. W innych państwach jest różnie od 0,01% na Tuvalu do 100% na Wyspach Wallis (14 tyś.). Ogółem w Oceanii żyje ponad 8 min. katolików na ogólną liczbę ok. 29 min mieszkańców. Instytuty Życia Konsekrowanego i Stowarzyszenia Życia Apostolskiego wniosły znaczny wkład w rozwój Kościoła katolickiego.

## 3. PRZYGOTOWANIE DO SYNODU W KOŚCIOŁACH LOKALNYCH I OKREŚLENIE JEGO TEMATU

Na przygotowanie Synodu złożyły się:

1. Dwie pielgrzymki Ojca św. do Australii i Oceanii; Jego kazania, rozmowy i listy do poszczególnych Episkopatów tego regionu.

2. Szereg spotkań regionalnych odbytych w 1996 r. pod przewodnictwem Kard. Jan Pietr Schotte, Sekretarza Generalnego Synodów Biskupich, w wyniku których ustalono tematykę Synodu.

3. Powołanie przez Papieża Rady pre-synodalnej, która odbyła swe pierwsze posiedzenie w dniach 14-16 listopada 1996 r., a następnie przy udziale Sekretariatu Generalnego Synodów Biskupich opracowała *Lineamenta pt.* "Jezus Chrystus a ludy Oceanii. Kroczyć Jego drogą, głosić Jego prawdę, żyć Jego życiem".

*Lineamenta* okładały się z trzech części: I. Kroczyć Jego drogą, II. Głosić Jego prawdę, III. Żyć Jego życiem oraz z 18 pytań.

4. Ustosunkowanie się biskupów i określonych osób do treści zawartych w *Lineamenta* (rok 1997 i miesiąc styczeń 1998 roku).

5. Przygotowanie *Instrumentum laboris* na podstawie nadesłanych odpowiedzi.

## 4. STRUKTURA SYNODU

W obradach uczestniczyły 154 osoby: 119 biskupów, w tym 84 z Oceanii, a także eksperci i relatorzy.

Zgromadzenie Synodalne składało się z dwóch grup:

A. Uczestnicy Synodu według tytułu ich uczestniczenia

I. Przewodniczący - Papież

II. Sekretarz generalny Synodu

III. Przewodniczący z wyboru (trzej)

IV. Relator generalny

V. Sekretarz specjalny

VI. Komisja ds. informacji (przewodniczący i wiceprzewodniczący)

VII. Komisja ds. przesłania (messaggio) (przewodniczący i wiceprzewodniczący)

VIII. Komisja ds. kontrowersji (przewodniczący i dwóch członków)

IX. Członkowie z diecezji Oceanii (Australia: 38 w tym I Ksiądz Adm. apost.); Nowa Zelandia: 10; Pacyfik: 17 w tym 3 kapłanów); Papua Nowa Gwinea i Wyspy Salomona: 21 w tym 2 Kapłanów Adm. apost.).

X. Członkowie wybrani z Unii Wyższych Przełożonych Zakonnych: 6 osób: Anglia, Italia, Kanada, USA, Hiszpania, Irlandia.

XI. Szefowie Kongregacji Kurii Rzymskiej oraz inni (16).

XII. Członkowie z nominacji Papieża (6 osób: z Indonezji, USA, Maurytanii, Anglii, Kanady, Ekwadoru).

B. Inni uczestnicy według ich tytułu uczestnictwa:

I. Eksperci (14)

II. Auditrici i Auditori (19 duchowni i świeccy).

III. Sekretariat Generalny Synodu Biskupów (9) oraz Asystenci (13), razem 22 osoby.

IV. Odpowiedzialni za upowszechnianie wiadomości (2 oraz 3 dla językćw angielskiego, francuskiego i włoskiego). Razem 5 osób.

C. Delegaci bratnich wyznań:

Po jednym z Kościoła anglikańskiego, Kościoła Ewangelicko-luterańskiego, Kościoła prezbite-riańskiego i Kościoła metodystów.

## 5. UROCZYSTA KONCELEBRA

Obrady poprzedziła Uroczysta koncelebra w Bazylice

# AUSTRALII I OCEANII



dialog ekumeniczny i sekty; wychowanie i szkolnictwo katolickie; małżeństwo i życie rodzinne; małżeństwa mieszane; szczególny obowiązek Kościoła do zajmowania się ubogimi, zepchniętymi na margines, wydziedziczonymi, imigrantami, oraz rodzinami znajdującymi się w trudnej sytuacji moralnej i materialnej; naturalne metody planowania rodziny; ochrona środowiska (prośba o encyklikę poświęconą ekologii); środki masowego przekazu środkami komunii; zły wpływ chrześcijan przybyłych z Europy. Rozważano także problemy lokalnych Kościołów, jak np. poligamii oraz godności kobiety w Papui Nowej Gwinei i w innych wyspach Oceanii.

Watykańskiej, dnia 22 XI 1998 r. z u-względnieniem elementów liturgii właściwej krajom Oceanii. Homilię wygłosił Ojciec św., którą zatytułowano: „Ta część Kościoła rozsiana na niezmierzonych przestrzeniach oceanicznych znajduje Prawdę i Życie w Drodze ukazanej przez świętych i męczenników"

### 6. MIEJSCE OBRAD

Obrady odbywały się w pomieszczeniach watykańskich. Obok sali Synodu była urządzona kaplica w której modlił się każdy indywidualnie. W kaplicy zgromadzono różne przedmioty – „znaki" inkulturacji wiary w Oceanii.

### 7. ORGANIZACJA SYNODU

Obrady składały się z sesji plenarnych i z prac w Sekcjach. Sesje odbywały się przed południem i po południu. Każda otrzymywała kolejny numer, było ich 13. Na wszystkie sesje plename przybywał Papież oraz niektórzy Prefekci Kongregacji Rzymskich.

W ciągu czterech i pół dnia omawiano tematy zawarte w *Instrumentum laboris*. Dziennie przemawiało od 3 do 37 uczestników Synodu. W sumie zabierały głos 123 osoby. Były też interwencje na piśmie (autorowi są znane trzy).

W następnych dnia pracowano w Sekcjach. Potem relatorzy przedstawili wynik ich prac. Po sprawozdaniu relatorów była I. Audiencja u Papieża. Dokończenie prac Synodu. Ogłoszenie „Orędzia do Ludu Bożego". Dalsze audiencje u Ojca św., ponieważ Biskupi Australii i Oceanii przybyli także *Ad limina apostolorum*.

### 8. PROBLEMATYKA SYNODU

Omówiono ponad 100 tematów szczegółowych zawartych w *Instrumentum laboris*. Oto niektóre z nich: dzieło misyjne Kościoła; życie sakramentalne; sekularyzacja, modernizm a tradycja, lokalne zwyczaje, tradycje i cywilizacja; wierni świeccy w Kościele; sprawiedliwość i pokój; rola kobiet; nadużycia seksualne fizyczne i psychiczne; inkulturacja wiary; młodzież; powołania kapłańskie i zakonne; diakoni stali; problem księży żonatych; wspólnoty chrześcijańskie bez kapłanów; relacje biskupów z Instytutami Życia Konsekrowanego; Kościół Wschodni na Oceanii (Ukraińcy); sprawiedliwość społeczna; ewangelizacja;

Bracia chrześcijanie mówili na następujące tematy: Ewangelia i kultura (anglikanin); wiara jako światło dla świata, który ustawicznie się zmienia (prezbiterianin); głoszenie prawdy – przesłaniem chrześcijanina (luteranin); Biblia – odniesieniem (wzorcem) niedozastąpienia (metodysta).

### 9. DOKUMENTY SYNODU

Opracowano Dokument końcowy i Orędzie do Ludu Bożego.W Orędziu do Ludu Bożego Biskupi napisali między innym: „Dni spędzone razem w Rzymie umożliwiły nam wspólnie przedyskutowanie wielu ważnych zagadnień, obejmujących myśli i propozycje, jakie mieliście do nas, waszych biskupów, zanim jeszcze tu przybyliśmy".

### 10. UROCZYSTA KONCELEBRA Z HOMILIĄ OJCA ŚW.

Na zakończenie Synodu Ojciec św. mówił o Nowej ewangelizacji jako najważniejszym zadaniem Kościoła Australii i Oceanii. Następnie na spotkaniu z biskupami, przekazał List *"Ad limina apostolorum"*.

Refleksja

• Synod był poważną wymianą myśli między Episkopatami a Stolicą Apostolską. Należy tu odnotować, że w Synodzie na zaproszenie Ojca św. uczestniczyli biskupi z sześciu innych państw. Jest to duża szkoła współodpowiedzialności za Kościół.

• Na szczególną uwagę zasługuje wielka szczerość i otwartość wypowiedzi uczestników Synodu.

• Synod opracował wiele propozycji. Przedłożono je Papieżowi, który rozstrzygnie co z nich zasługuje na największą uwagę i to, jak można oczekiwać, stanie się treścią dokumentu, który Ojciec Święty ogłosi w swoim czasie.

***ks. Stanisław Pawlina fDP***

*Na zdjęciu: procesja z Ewangelią podczas uroczystej concelebry na Synodzie.*

*Foto z "L'Osservatore Romano".*



# "Хрыстус – Крыніца

11-14 студзеня 1999г. у Рыме адбыўся міжнародны кангрэс на тэму "***Хрыстус – Крыніца новай культуры ў Еўропе***", падрыхтаваны Папскай радай культуры пад старшынствам кард.Поля Пупара. Спатканне сабрала 40 дзеячоў культуры розных хрысціянскіх канфесій з 35 еўрапейскіх краін. Удзельнікі былі адзіныя ў ідэі неабходнасці сфармавання новай экуменічнай духоўнасці для аб'яднанай Еўропы. "Нават калі і не ўсе еўрапейцы лічаць сябе хрысціянамі, усё ж народы нашага кантынента выразна адзначаныя духам Евангелля, без якога цяжка было б гаварыць пра Еўропу", – падкрэсліў Папа Ян Павел II падчас аўдыенцыі для ўдзельнікаў сімпозіума.

Спынімся на некаторых выступах удзельнікаў кангрэса. "Захад павінен вывучаць Усход як замежную мову", – сказала у сваім выступе Наталля Кохан, дырэктар Аддзела вывучэння хрысціянства Цэнтра гуманістычных даследаванняў (Кіеў). Хрысціянскі Усход і Захад маюць розныя падыходы да філасофіі, таму праваслаўе і каталіцызм з часам выпрацавалі ўзаемна замкнёныя багаслоўскія мовы. Гэтая розначсць у падыходах, на яе думку, блакіруе развіццё экуменічнага дыялогу абодвух Касцёлаў.

Але не ўсе удзельнікі кангрэса былі аднадушныя ў гэтым пытанні. Праф.Савас Агурыдэс, праваслаўны багаслоў з Афінскага універсітэту, у размове з карэспандэнтам КАІ сказаў, што рускае праваслаўнае багаслоўе карысталася здабыткамі заходняй думкі яшчэ ў XVI ст., таму рэзкае супрацьпастаўленне двух спосабаў мыслення – гэта яўнае перабольшванне. Агурыдэс дадаў, што шмат праблемаў, якія сёння паўстаюць перад праваслаўнымі Цэрквамі, зыходзяць з новай палітычнай сітуацыі, у якой яны апынуліся. Упершыню праваслаўныя Цэрквы жывуць без палітычнай падтрымкі. У візантыйскім багаслоўі цар быў правай рукой Бога, а Патрыярх – левай. Сёння руская Царква вучыцца дзейнічаць самастойна, без апоры на царскую ўладу, як гэта было да рэвалюцыі. Гэты вопыт будзе для яе вельмі карысным.

Румынскі багаслоў праф. Іон Іка ў сваім дакладзе праананалізаваў футуралагічныя сцэнарыі Фукуямы (канец гісторыі) і Хантынгтана (сутыкненне цывілізацый). Абодва зводзяць чалавека альбо да ўзроўню эканомікі альбо да культуры. Праф.Іка сцвярджае, што Еўропа патрабуе душы, і ў гэтым сваім пераканнанні ён салідарны з Папам Янам Паўлам II і Патрыярхам Варфаламеем.

Культура мас-медыяў – гэта вялікі выклік для Касцёла, – сказаў шведскі патролаг Пер Бэскаў. Сёння яны вырашаюць, у што трэба верыць. Калі рэлігійная праблематыка і выклікае нейкую зацікаўленасць мас-медыяў (як эпахальны візіт Папы на Кубу),

## 1998 год: 37 мучанікаў-місіянераў

Спіс з 37 місіянераў, замучаных за веру ў 1998г., апублікавала агенцтва Fides. Сярод вызнаўцаў веры – законнікаў найвялікшую колькасць складаюць Дочкі Уваскрашэння з



Руанды і Конга (9), Місіянеркі Любові з Йемена (3) і святары "Fidei Donum" (3).

Паводле статыстыкі за 1997г., у свеце налічваецца 200 млн праследаваных хрысціянаў і каля 400 млн вызнаўцаў іншых рэлігій. Адказнасць за гэта нясуць 75 дзяржаў, якія ў той ці іншай форме абмяжоўваюць свабоду сумлення сваіх грамадзянаў.

***На здымку: йеменскія мучаніцы — Місіянеркі Любові: злева – с. Алетта, справа – с. Зэлія і с. Міхаэль.***

*Фота з "L'Osservatore Romano"*

## Святы Айцец наведаў Мексіку

Чатыры дні – з 22 па 26 студзеня працягвалася пілігрымка Святога Айца Яна Паўла II у Мексіку. Галоўнымі яе падзеямі былі падпісанне Папам паслясінадальнай Апостальскай адгартацыі «Ecclesia in America», якая падсумоўвае Спецыяльнае Зграмаджэнне Сіноду Біскупаў для Амерыкі (1997), і Святая Імша ў нацыянальнай святыні Мексікі – базіліцы Маці Божай з Гвадэлупы. Ян Павел II

# новай культуры ў Еўропе”

то ў значна меншай ступені, чым розныя скандалы (напрыклад, з Монікай Левінскі). Таму Касцёлу сёння вельмі неабходныя духоўныя і свецкія вернікі, падрыхтаваныя для працы ў сферы электронных масавых камунікацый. Такія людзі могуць мець значна большы ўплыў на грамадскую свядомасць, чым афіцыйныя прадстаўнікі Касцёла, у тым ліку і Папа.

“Хто не спасцігнуў таямніцы, падобны да вока, якое не бачыла святла”. Гэтыя словы Альберта Эйнштэйна абраў дэвізам для свайго выступу праф.Вінчэнца Капэлецці, старшыня навуковага камітэту *Encyclopaedia Italiana*. Ён падкрэсліў, што парадыгма навуковага мыслення ў нашым стагоддзі моцна змянілася, час механікі і матэрыялізму мінае. Да прызнання мэтазгоднасці ў прыродзе застаўся адзін крок, – сцвердзіў прамоўца.

Польскі рэжысёр Кшыштаф Зануссі выступіў з дакладам пра хрысціянства як крыніцу натхнення ў мастацтве кіно. Ён звярнуў увагу на тое, што перад яго выступам у зале Сіноду Біскупаў быў расцягнуты экран, які засланіў крыж над прэзідыумам. “Многія ўбачылі б у гэтым сімвал ролі кіно адносна хрысціянства: экран засланіў крыж”, – сказаў Зануссі, не згаджаючыся з падобным сцвярджэннем. У тым, што на мове кіно і тэлебачання так мала гаворыцца пра Таямніцу, вінаватыя не сродкі масавай інфармацыі, якія ўзніклі ў часы духоўнай пустэчы, але самі хрысціяне, якія не выражаюць сваіх перакананняў на гэтай мове. Зануссі прыводзіў шматлікія прыклады творцаў кіно, якія ў сваіх фільмах умелі казаць пра Бога, і ілюстраваў даклад фрагментамі такіх фільмаў. Рэжысёр узгадаў, што на прапанову арганізаваць дэманстрацыю яго фільма “Брат нашага Бога” па п’есе Караля Вайтылы, арцыбіскуп Лос-Анджэлеса (дзе знаходзіцца Галівуд) адказаў, што фільмы яго не цікавяць. Дык хто каму патрэбны: культура Касцёлу ці Касцёл культуры? На другое пытанне з упэўненасцю можна адказаць пазітыўна: культуры вельмі патрэбны Касцёл. Але ці культура насамрэч патрэбная Касцёлу? – пытаўся польскі рэжысёр. На яго думку, людзі з Касцёла павінны перастаць ігнараваць мас-медыя, бо ў адваротным выпадку будуць узнікаць толькі прадукты, якія адлюстроўваюць духоўнасць супермаркета.

Гарачую дыскусію выклікала заява Зануссі, што чытанне стане звычкай меншасці. Пэр Бэскаў падкрэсліў, што большасць матэрыялаў у Інтэрнэце, – гэта па-ранейшаму пісанае слова. А Леон Цэхес, рэдактар “Luxemburger Wort”, паведаміў, што ў наш час прадаецца больш кніг, чым калі-кольвек у гісторыі. Ён узгадаў, што са з’яўленнем прадуктаў хуткага харчавання прадказвалі канец традыцыйнай кухні, але наадварот, яе працягваюць цаніць па-ранейшаму. Зануссі тлумачыў, што хацеў справакаваць слухачоў. Друкаванае слова мае вялікае значэнне ў нашай культуры, але не дамінуе ў ёй. Аўдыёвізуальныя мас-медыя – таксама не адзіная мова сучаснай культуры, але ўсё ж сёння яны з’яўляюцца найважнейшай яе мовай.

*Паводле матэрыялаў агенцтва КАІ*

заклікаў мексіканцаў супраціўляцца «культуры смерці» і прапагандаваць «культуру жыцця», падкрэсліўшы неабходнасць забароны абортаў, эўтаназіі і пакарання смерцю. Падчас гаміліі прагучалі такія словы: *«Гэта наш крык: годнае жыццё для ўсіх! Для ўсіх, зачатых ва ўлонні сваіх маці, для дзяцей вуліцы, для карэнных народаў і афра-амерыканцаў, імігрантаў і ўцекачоў, для маладых, пазбаўленых магчымасцяў, для старых, якія пакутуюць ад усялякіх формаў убоства або маргіналізацыі».* Падчас сустрэчы 23 студзеня з прэзідэнтам Мексікі Эрнэста Зэдзільё і дыпламатычным корпусам Папа сказаў, што эгаізм вядзе да таго, што *«заможныя народы штодня дбаюць пра чарговыя прывілеі для сябе, усё больш зняволькаючы слабыя народы»*. У 40-хвіліннай прыватнай размове з прэзідэнтам Зедзільё Ян Павел II адзначыў салідарнасць мексіканскага народа і ўраду Зэдзільё з ахвярамі ўрагану «Мітч», які ў лістападзе-снежні пакінуў пасля сябе тысячы забітых і параненых і матэрыяльныя страты на сотні мільёнаў долараў. Па словах прэс-сакратара прэзідэнта Мексікі Фэрнанада Лерда дэ Тэхады, праблема ўзброенага кафлікту паміж урадам і Фронтам Нацыянальнага Вызвалення імя Запаты ў штаце Ч’япас, які цягнецца з 1994г., не ўзнімалася. Сам жа візіт Папы схіліў урад да новых спробаў узнавіць мірныя перамовы з запатыстамі.

У нядзелю 24 студзеня Папа ўзначаліў пантыфікальную Святую Імшу на аўтадроме імя Радрыгезаў, якая сабрала каля мільёна пілігрымаў з усёй краіны і Амерыкі, а таксама і сустрэўся з цяжка хворымі ў шпіталі імя Лопэза Матэоса ў Мехіка. У апошні дзень візіту на сталічным стадыёне Ацтэкаў Святы Айцец сустрэўся з прадстаўнікамі ўсіх пакаленняў Мексікі.

*KAI*

## Індыя: ці будзе 1999 год Годам Хрыста?

Прэм'ер-міністр Індыі і старшыня «Бхаратыя Джаната Парці» Атал Бэхары Ваджпаі жадае, каб гэты год у ягонай краіне быў Годам Хрыста на ўспамін Яго пасляння «любові і ахвяры». У навагоднім звароце ён асудзіў усялякія праявы рэлігійнага фанатызму, заклікаўшы да пашаны правоў усіх кастаў і рэлігій. Прадстаўнікі хрысціянскай меншасці з надзеяй успрынялі гэтую прапанову прэм'ера, бо ў мінулым годзе ў краіне было зарэгістравана каля сотні выпадкаў гвалтоўных дзеянняў супраць хрысціянаў і хрысціянскіх інстытутаў з боку індуісцкіх фундаменталістаў. У штаце Гуджарат за калядны перыяд індуісцкія экстрэмісты спалілі пяць касцёлаў, дзве хрысціянскія школы і шпіталь, у выніку чаго 5 чалавек арымалі цялесныя пашкоджанні. З 950 млн жыхароў Індыі 2,4% з'яўляюцца хрысціянамі, 80% насельніцтва вызнае індуізм.



*На здымку: каталіцкая працэсія ў Індыі.*

## ЗША: маці васьмярні просіць аб малітве

Нкем Чукву, маці васьмярых немаўлятаў, якія нарадзіліся ў канцы снежня ў Х'юстане (штат Тэхас), на першай прэс-канферэнцыі выказала ўдзячнасць Богу за шчаслівыя роды і папрасіла ўсіх аб малітве. Яна – хрысціянка і належыць да Царквы Давяраючых Біблії. Нягледзячы на тое, што Нкем была выпісана са шпіталя св.Лукі, яе сямёра дзяцей (адно немаўлятка памерла пасля родаў) некаторы час застануцца там на рэжыме інтэнсіўнай тэрапіі.

## Калумбія: партызаны забілі 26 католікаў

У нядзелю 10 студзеня ў мясцовасці Плайон-дэ-Арозка (дэпартамент Магдалена, Калумбія) члены ўзброенай праварадыкальнай групоўкі забілі 26 католікаў, якія выходзілі пасля нядзельнай Св.Імшы з касцёла. Тэрарысты абвінавацілі вернікаў у падтрымцы левых рэвалюцыйных сіл і расстралялі каля касцёла. Праварадыкалы ўчынілі падобнае яшчэ ў некалькіх мястэчках, дамагаючыся гэтым надання ім спецыяльнага палітычнага статусу.

## Дапамога дзецям

Больш за 3 тыс. розных асветніцкіх і грамадскіх праектаў ува ўсім свеце рэалізуе Папская місія для дзяцей. Штогод 6 студзеня адзначаецца Місійны Дзень Дзяцей ( цяпер ужо ў 110 краінах), падчас якога збіраюцца грошы на новыя праекты і дзейнасць Папскай справы ва ўсім свеце. За апошнія гады найбольш грошай было сабрана на дапамогу «дзецям вуліцы» ў краінах трэцяга свету, асабліва ў Лацінскай Амерыцы, ахвярам СНІДу ў Тайландзе і Замбіі, а таксама ахвярам «сексуальнага турызму» ў Шры-Ланцы.

У гэтым годзе найбольш ўвагі будзе ўдзяляцца дзецям Ірака, якія церпяць ад абвешчанага некалькі гадоў таму эмбарга, а таксама ахвярам голаду ў Судане, паводкі ў Папуа-Новай Гвінеі і маленькім грамадзянам Гаіці – адной з самых бедных краінаў свету.

## Рада Біскупаў Лацінскай Амерыкі заклікае да даравання даўгоў

Члены Біскупскай канферэнцыі Лацінскай Амерыкі у спецыяльным пасланні з нагоды падрыхтоўкі да святкавання Юбілею 2000 Года заклікалі заможныя краіны даравааць пазыкі найбяднейшым дзяржавам.

«Запазычанасць многіх краін гэтага рэгіёну свету выклікае збядненне шырокіх слаёў насельніцтва», – зазначылі біскупы. Збядненне насельніцтва, секулярызацыя і недахоп сьвятароў – гэта найважнейшыя праблемы, якія стаяць сёння перад каталіцкім Касцёлам у Лацінскай Амерыцы.

## Арцыбіскуп Кентэрберыйскі – за скарачэнне набажэнстваў

Прымас Англіканскай Царквы арцыбіскуп Кентэрберыйскі Джордж Кэры выказаў думку, што хрысціяне павінны «менш паказваць сваю рэлігійнасць» і заклікаў скараціць набажэнствы і казанні. Гэтыя прапановы арцыбіскупа з'явіліся ў англіканскім зборніку, прысвечаным Вялікаму Юбілею, пад назвай «Новая Эра, Новы Касцёл».

Каб прыцягнуць у свае парафіі больш людзей, пабожныя англікане мусяць быць больш сардэчнымі і чуйнымі, – лічыць іх духоўны галава. Таксама ён заклікаў іх хадзіць па дамах абыякавых да рэлігіі людзей і прапаведаваць, як гэта робяць сведкі Іеговы або мармоны.

## Італія: Арцыбіскуп Палерма асуджае мафіёзныя «разборкі».

Арцыбіскуп Палерма, кардынал Сальваторэ дэ Джыёрджы выступіў з асуджэннем забойства пяці чалавек 2 студзеня ў Віторыі,

трое з якіх былі вядомыя як гандляры наркотыкамі. Арцыбіскуп заклікаў мафію да навяртання і нагадаў забойцам аб гневе Божым, якога ніхто не пазбегне. Гэтае забойства на Сіцыліі – самае вялікае за апошнія 8 гадоў.

## У Іспаніі пачаўся Год Якуба

Апоўначы з 31 снежня на 1 студзеня арцыбіскуп Хуліян Баррыо Баррыо адкрыў Святым Дзверы ў нацыянальнай іспанскай святыні Сант'яга-дэ-Кампастэла — так распачаўся Год Якуба, апекуна горада і Іспаніі. Святы Год адзначаецца ў гэтым санктуарыі тады, калі свята св.Якуба (25 ліпеня) прыпадае на нядзелю так, як і сёлета. Іспанскі Касцёл спадзяецца, што з прычыны юбілею краіну наведае Святы Айцец.



***На здымку: катэдра ў Сант'яга-дэ-Кампастэла.***

## Бразілія – найвялікшая каталіцкая краіна свету

Сёння самай вялікай каталіцкай краінай свету з'яўляецца Бразілія – 118,4 млн яе жыхароў, што складае каля 75% насельніцтва, вызнаюць каталіцызм. Пра гэта паведаміў амерыканскі Каталіцкі Альманах, які лічыцца адным з самых сур'ёзных каталіцкіх статыстычных штогоднікаў у свеце. Другое месца займае Мексіка, дзе католікамі лічаць сябе 88 млн чалавек (каля 90% насельніцтва), а трэцяе – ЗША (61 млн чалавек, што складае 30% ад агульнай колькасці насельніцтва). Такім чынам ЗША абагналі дзве іншыя традыцыйна каталіцкія краіны – Філіпіны і Італію, дзе налічваецца адпаведна 57 млн (каля 85%) і звыш 55,5 млн (каля 98%) католікаў.

## Рада музея ў Асвенціме заклікае вярнуць Кар'еру першапачатковы выгляд

Міжнародная Рада музеяў Асвенцім-Бжэзінка, значная частка членаў якой былыя вязні канцлагера, пастанавіла вярнуць першапачатковы выгляд Кар'еру і падтрымала рашэнне польскіх уладаў у справе вырашэння канфлікта вакол крыжоў у Асвенціме.

Сёння на т.з. Кар'еры ўстаноўлена амаль 200 крыжоў. Яны былі пастаўлены рознымі групамі вернікаў, у асноўным правых і патрыятычных поглядаў, паабапал так званага Папскага крыжа, нягледзячы на тое, што Епіскапат Польшчы ад пачатку не падтрымліваў гэтай акцыі дзеля захавання грамадскай згоды і недапушчальнасці выкарыстання рэлігійных сімвалаў у палітычных мэтах. Прэм'ер-міністр Польшчы Ежы Бузэк запэўніў, што ўрад прыме неабходныя меры для вяртання Кар'еру першапачатковага выгляду.

## У Расіі ўтворана Міжрэлігійная Рада

Кіраўнікі і паўнамоцныя прадстаўнікі чатырох традыцыйных рэлігійных супольнасцяў Расіі – праваслаўя, ісламу, юдаізму і будызму вырашылі стварыць Міжрэлігійную Раду Расіі. Паводле інфармацыі прэс-службы Аддзела знешніх царкоўных зносінаў Маскоўскага Патрыярхату, Рада створана для супольнага вырашэння праблем, якія паўстаюць перад сучасным расійскім грамадствам на шляху міжрэлігійнага дыялогу. У перспектыве плануецца пашырэнне Рады за кошт іншых рэлігійных канфесій, традыцыйных для Расіі, а таксама дзейнасць на ўзроўні СНД. Азначэнне «традыцыйныя рэлігіі» ўжываецца ў новым расійскім законе аб свабодзе сумлення і рэлігійных аб'яднаннях. Да такіх рэлігій дакумент залічвае хрысціянства (праваслаўную, каталіцкую, армяна-грыгарыянскую, стараабрадчыя і пратэстанцкія Цэрквы), іслам, юдаізм і будызм.

## Касцёл у Казахстане

"Каталіцкі Касцёл у Казахстане будзе апорай рэлігійнасці ува ўсёй Азіі", – заявіў вядомы даследчык Касцёла на Усходзе, журналіст гданьскага радыё "Плюс" Адам Глябовіч (часопіс "Спадчына" у 1994г. друкаваў яго манаграфіі "Касцёл у няволі" і "Адроджаны Касцёл"). На ягоную думку, каталіцкі Касцёл у гэтай сярэднеазіяцкай краіне, які яшчэ нядаўна складаўся ў асноўным з палякаў і немцаў, становіцца ўсё больш паўсюдным. "Усё часцей хрост у каталіцкіх святынях прымаюць рускія і казахі. Духавенства, якое сёння працуе сярод вернікаў гэтай краіны, таксама сімвалізуе паўсюднасць Касцёла, бо сярод яго ёсць палякі, немцы, амерыканцы і карэйцы", – сказаў Глябовіч. Паводле яго ацэнкі, развіццю каталіцызма ў краіне не перашкаджае масавая эміграцыя немцаў і палякаў, "бо на месца ад'язджаючых парафіянаў прыходзяць новыя, найчасцей гэта рускія і прадстаўнікі мясцовага насельніцтва".

У Казахстане налічваецца паўмільёна католікаў. На чале Апостальскай адміністратуры, якая была створана там Папам Янам Паўлам II, стаіць біскуп Ян Павел Ленга. У 27 існуючых парафіях сёння працуе звыш 50 святароў, большасць з якіх – польскія ксяндзы.

***КАІ***

# КРЫНІЦА Ў ПУСТЫНІ ГАРАДОЎ

Ерузалімскія манаскія супольнасці ўзнiклі ў 1975г. у Парыжы. Заснаваны яны былі а.П'ерам-Мары Дэльф'ё, былым душпастырам студэнтаў Сарбоны і пустэльнікам у Сахары. Яны пакліканыя





"змясціць сваю малітву ў сэрцы горада і свой горад у сэрцы малітвы". Манахі і манашкі з'яўляюцца дзвюма незалежнымі супольнасцямі. Яны атрымалі касцёльнае зацвярджэнне як законныя інстытуты. Ерузалімскія браты і сёстры – жыхары горада, яны забяспечваюць сябе ўласнай працай, жывуць у кватэрах, абыходзяцца без традыцыйных кляштарных муроў, маюць непасрэдны кантакт з мясцовым Касцёлам і, абапіраючыся на традыцыйныя каштоўнасці манаства, стараюцца быць "пільнымі вартаўнікамі на мурах горада". Цяпер супольнасць налічвае 120 манахаў і манашак 25 розных нацыянальнасцяў сярэдняга ўзросту 35 гадоў. Рана, апоўдні і ўвечары ў старажытным парыжскім касцёле св. Гервазія браты і сёстры збіраюцца на сумесную малітву, а таксама ўдзельнічаюць у Эўхарыстыі.

**Больш падрабязную інфармацыю пра Ерузалімскія супольнасці можна атрымаць, напісаўшы на адрас:**
***Fraternités Monastiques de Jérusalem***
***13, rue des Barres, 75004 PARIS***
***FRANCE***



## Старонка Мінскай архікатэдры ў Інтэрнэце

З нядаўняга часу карыстальнікі Інтэрнэту маюць магчымасць наведаць старонку Мінскай архікатэдры. Яна складаецца з наступных раздзелаў: каталіцкі Касцёл на Беларусі, Мінская архікатэдра, расклад набажэнстваў у каталіцкіх святынях Мінска, навіны, каталіцкая прэса, касцёлы Мінска і Беларусі (фота), грыгарыянскія спевы, каталог каталіцкіх рэсурсаў у Інтэрнэце.

Адрас новай старонкі: **http://cacedu.unibel.by/katedra**

## Дыяцэзіяльныя дні духоўных сустрэчаў святароў

Лютаўскія духоўныя сустрэчы святароў адбудуцца:
**4.02.** – Новая Мыш (для святароў Пінскай дыяцэзіі);
**9.02.** – Мінск-архікатэдра (для святароў Мінскай вобл.);
**10.02.** – Докшыцы (для святароў Віцебскай вобл.).
**Пачатак – а 11 гадзіне.**

## Паважаныя чытачы!

Звяртаемся да вас з вялікай просьбай. У вашай парафіі, горадзе, мястэчку, вёсцы, пэўна, адбываюцца самыя розныя падзеі. Напішыце нам пра ваша жыццё, падзяліцеся сваімі думкамі, праблемамі, задавайце пытанні, якія вас хвалююць. Давайце разам рабіць "Каталіцкія Навіны" больш цікавымі і разнастайнымі. Таксама заклікаем вас распаўсюджваць "Каталіцкія Навіны", часопісы "Ave Maria" і "Наша вера" сярод сваіх знаёмых, суседзяў, аднавяскоўцаў. Звяртайцеся з гэтым да свайго пробашча або непасрэдна ў рэдакцыю. Мы заўсёды рады вашым пісьмам.

***Рэдакцыя "Каталіцкіх Навінаў"***

**Каталіцкія навіны.** № 1-2/1999 (39-40) Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла.
Рэг. № 686. **Адрас рэдакцыі:** пл.Свабоды 9, 220030 Мінск. **Факс** (017) 226-90-92. **E-mail:** maria@maria.belpak.minsk.by.
Падпісана да друку 02.02.99. Фармат 62 1/8. Наклад 3000 экз. Зак.35. Надрукавана ПП В.Ю.А. Пасв. №836. Вул.Чкалава,14
Акрамя матэрыялаў уласных карэспандэнтаў у нумары выкарыстаны паведамленні замежных выданняў і агенцтва КАІ.